

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***


# наша СЛОВА.pdf



**Другі год выдання** **№ 40 (92) 4 кастрычніка 2023 г.**


# 1 кастрычніка Беларусь адзначыла Дзень настаўніка

У вялікай зале Палаца культуры г. Ліды 29 верасня адбылася ўрачыстая праграма, прысвечаная Дню настаўніка. Словы падзякі педагогам Лідчыны ад сябе асабіста і ад імя старшыні Лідскага райвыканкама Сяргея Ложачніка адрасавала старшыня раённага Савета дэпутатаў Інэса Белуш:

- Ваша праца - вялікая місія. Быць настаўнікам - значыць, усё жыццё працаваць над развіццём самога сябе, умець трансляваць свае веды, свае каштоўнасці тым, хто знаходзіцца побач, а менавіта - дзецям. Вы, як будаўнікі, будуеце наш заўтрашні дзень, нашу будучыню. І мы, прадстаўнікі органаў улады, з вялікай надзеяй, увагай глядзім на вас. Жыццё развіваецца, і час ставіць перад школай глабальныя задачы. Удасканальваюцца змест адукацыі, навучальныя тэхналогіі. Але роля асобы педагога, яго прафесійнае майстэрства, стыль жыцця, годныя ўчынкі і велізарная любоў да дзяцей застаюцца галоўнай умовай паспяховасці адукацыйнага працэсу.

Са словамі віншаванняў да педагогаў Лідчыны звярнулася начальнік упраўлення адукацыі Лідскага райвыканкама Вольга Тарасюк:

- Мы па праве называем гэтае свята ўсенародным. Няма такога чалавека, які б з удзячнасцю не ўспамінаў свайго настаўніка. Праца настаўніка, сапраўды, самая важная на зямлі. Таму што мы не толькі перадаём веды, але і выхоўваем годных грамадзян. Як неаднаразова падкрэсліваў Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка, выхаваць патрыёта можа толькі патрыёт. Педагогі Лідчыны - высакакласныя спецыялісты, прафесіяналы сваёй справы. У нашай галіне працуюць больш за чатыры з паловай тысяч работнікаў, з іх 3659 педагогаў. І толькі ад зладжанай работы кожнага залежыць поспех і выніковасць усёй нашай сістэмы. Адукацыі Лідчыны ёсць чым ганарыцца. Увесь апошні тыдзень мы сачылі за навінамі з Менска, дзе праходзілі значныя падзеі. У фінале рэспубліканскага конкурсу "Настаўнік года Беларусі-2023" у ліку сямі лепшых педагогаў у намінацыі "Выхавальнік дашкольнай адукацыі" была і наш педагог - выхавальнік дзіцячага садка № 21 Настасся Харужая. Яшчэ адзін рэспубліканскі конкурс - "Педагагічны дэбют" - таксама не мог прайсці без удзелу лідзян. Педагог СШ №17 Настасся Ненартовіч заняла ў ім ганаровае 3 месца.







*(Заканчэнне на ст. 2.)*

# 1 кастрычніка Беларусь адзначыла Дзень настаўніка

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

Сёння гучала шмат самых шчырых віншаванняў і слоў захаплення ў адрас лідскіх настаўнікаў, якія сэрцам выбралі гэты ганаровы і вельмі адказны шлях. Нізкі паклон ім і наша сардэчная падзяка за бясконцую мудрасць, велізарная цярпенне, абачлівае стаўленне да вучняў і найвялікшую адданасць сваёй справе.








Святочным падарункам педагогам Лідчыны стаў канцэрт пераможца шоў "Х-фактар" Андрэя Панісава і паўфіналісткі "Фактар.BY.60+" Таццяны Капачэль, а таксама групы "PROвокация".

*https://edu-lida.gov.by.*

# Упраўленнем адукацыі Лідскага раённага выканаўчага камітэта, а таксама ўстановамі адукацыі Лідскага раёна праводзіцца работа па папулярызацыі беларускай мовы




Упраўленнем адукацыі Лідскага раённага выканаўчага камітэта, а таксама ўстановамі адукацыі Лідскага раёна праводзіцца работа па папулярызацыі беларускай мовы, у тым ліку праз арганізацыю адукацыйнага працэсу ва ўстановах адукацыі і класах з беларускай мовай навучання.

Нагадаем, што прыём (залічэнне) дзяцей у 1 клас установы агульнай сярэдняй адукацыі ажыццяўляецца на падставе заявы законных прадстаўнікоў дзяцей (у заяве законны прадстаўнік указвае мову навучання), а таксама іншых дакументаў, устаноўленых часткай першай пункта 2 артыкула 151 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі, пунктам 67 Палажэння аб установе агульнай сярэдняй адукацыі, зацверджанага пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 19.09.2022 №322.

У 2023/2024 навучальным годзе ў Лідскім раёне функцыянуе 10 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання, якія наведваюць 815 вучняў. На базе 4 рускамоўных устаноў агульнай сярэдняй адукацыі функцыянуе 7 класаў з беларускай мовай навучання, якія наведваюць 60 вучняў. 4 з іх - у г. Лідзе і г. Бярозаўцы: СШ №№ 12, 16 г. Ліды, Бярозаўскай СШ № 3.

***Вольга ТАРАСЮК**,*
*начальнік упраўлення адукацыі Лідскага райвыканкама.*
*https://lida.gov.by/by/*






# Традыцыя "Ты будзеш вечна жыць, мая родная мова!" працягваецца



Напярэдадні Дня народнага адзінства ў аддзеле ЗАГС-а Лідскага райвыканкама на працягу тыдня - з 11 верасня па 15 верасня - спецыялістамі аддзела было арганізавана незвычайнае ўручэнне пасведчанняў аб нараджэнні і заключэнні шлюбу.



Віншаванні гучалі выключна на беларускай мове. Разам з пасведчаннямі ўсе атрымалі вокладкі да іх з дзяржаўнай сімволікай Рэспублікі Беларусь.

Сярод наведвальнікаў аддзела загса былі і шматдзетныя сем'і, і замежныя грамадзяне. Традыцыя "Ты будзеш вечна жыць, мая родная мова!" працягваецца.

Прэс-служба Лідскага райвыканкама.
*https://lida.gov.by/by/*

# Да Дня сталых людзей

На базе турыстычнага комплекса "Вольны Мельнік" у аграгарадку Дворышча прайшла народная вечарына.







Яе арганізаваў і правёў народны фальклорны гурт "Талер" Лідскага аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры.

Мерапрыемства было прысвечана да Дня сталых людзей.

***ТК “Культура Лідчыны”.***





# Знойдзеная музыка гучыць

Восеньскую серыю канцэртаў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі распачала 28 верасня Музычная капэла Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН пад кіраўніцтвам Галіны Паўлаўны Цмыг.

У складзе капэлы дзейнічае струнны квартэт, жаночая і мужчынская харавыя групы.

Чальцы капэлы працуюць у аддзеле музыкальна-выканаўчай спадчыны Беларусі, даследуюць захаваныя ў бібліятэках і архівах партытуры і практыкуюць інтэрактыўныя лекцыі-канцэрты ў розных установах з мэтай папулярызацыі старадаўняй і сучаснай беларускай музыкі.



У прадмове да канцэрта Галіна Паўлаўна Цмыг распавяла пра вялікія пласты музычнай беларускай спадчыны, якія знаходзяцца ў нотных запісах у бібліятэках С. Пецярбурга, Лондана і іншых культурных сталіц свету, пра нечаканыя знаходкі, які бываюць адшуканыя на руінах старажытных замкаў.

Чальцы музычнай капэлы робяць дастаяннем публікі такія забытыя творы і папулярызуюць старадаўнюю музыку.

"Знойдзеная музыка гучыць своеасаблівым шматгалоссем", - пад такім дэвізам была прэзентавана сённяшняя праграма.

"Ганузя, сардэнька, ты маё каханне", - такую пяшчотную назву мела адна з песень.





У выкананні мужчынскай вакальнай групы прагучалі спевы "Вёсачка", "Хутарок", " Вучоны", а затым была выканана сюіта сучаснага кампазітара Аляксандра Літвіноўскага "Тоўсты сшытак".

На завяршэнні прагучалі творы беларускіх кампазітараў на вершы Я. Коласа, Я. Купалы, Р. Барадуліна.

Інтэрактыўныя лекцыі-канцэрты працягнуцца ў кастрычніку і лістападзе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*





# Светлая памяць пра выбітнага літаратара, чалавека вялікай душы

Родныя і сябры паміналі сённа на саракавы дзень выбітнага беларускага пісьменніка Віктара Карамазава (1934-2023) , члена Саюза беларускіх пісьменнікаў і Саюза мастакоў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, члена саюза пісьменнікаў СССР (1969), які шмат гадоў прысвяціў журналісцкай і пісьменніцкай дзейнасці, працуючы ў рэгіянальным друку Магілёўшчыны, у газетах " Звязда", " ЛіМ", аўтара кніг " Пушча", " Крыж на зямлі і поўня ў небе", " Мастак і парабкі", "Краса і воля", "Брама", " З вяснай у адным вагоне" і іншых твораў, прысвечаных беларускім жывапісцам. Пісьменнік шмат падарожнічаў, у маладыя гады, у часы СССР, Віктар Карамазаў наведваў Сейшэльскія астравы і Маўрыкій, апісваў прыроду і жыццё гэтых краін.

У апошні месяц, на 90-тым годзе жыцця пісьменнік разам з сям'ёй наведаў родныя мясціны ў Чэрыкаве і ў Крычаве, быў цёпла прыняты ў мясцовай бібліятэцы, дзе захоўваюцца яго творы і ёсць мемарыяльны куток.





На памінальную вечарыну прыйшлі родныя і сябры літаратара, успамінамі падзяліліся дачка літаратара - Люміла Віктараўна і сын Сяргей, унучка Алена і ўнук Міхась, пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік і мастак Уладзімір Вішнеўскі, і іншыя.

Дачка Людміла прачытала водгук на яго творчасць Гаўрыіла Харытонавіча Вашчанкі, з якім Віктара Карамазава звязвала шчырае сяброўства.



Віктар Карамазаў быў чалавекам вялікай душы, ен вельмі любіў лес, прыроду, прыгожае пісьменства і жывапіс, быў добрым мужам, бацькам і дзедам.

Ён глыбока пранікаў у таямніцы мастацкай творчасці і даследваў жыццё і лёсы знакамітых жывапісцаў XIX - XX стагоддзя - В. Бялыніцкага-Бірулі, С. Жукоўскага, М. Неўрава, А. Бархаткова, Г. Вашчанкі і іншых, падрожнічаў па мясцінах іх жыцця, праводзіў літаратурныя вечарыны і мастацкія пленэры, прысве-чаныя ім, пісаў сцэнары.

На яго друкарскай машынцы застаўся няскончаны аркуш... Пісьменнік быў пахаваны ў Крычаве побач з бацькамі і сястрой... Светлая памяць і вялікая ўдзячнасць!

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*

*Навіны Германіі*

# "Займацца рэдкімі мовамі - быць у авангардзе, а не дыназаўрам"

## *Нямецкая перакладчыца расказала аб працы з беларускай мовай*

*Ціна Вюншман нядаўна пераклала з беларускай мовы на нямецкую аповесць "Па што ідзеш, воўча?" Святланы Курс (псеўданім Ева Вежнавец). Кніга патрапіла ў шорт-ліст Міжнароднай літаратурнай прэміі, якую прысуджаюць за выдатны твор сучаснай замежнай літаратуры ў яго першым нямецкім перакладзе. Карэспандэнтка паразмаўляла з Цінай Вюншман пра цяжкасці перакладу, гістарычныя сувязі ў кнізе і сям'ю, беларускую вёску, а таксама пра тое, як быць перакладчыцай з беларускай мовы ў Германіі.*



***- Як вы даведаліся пра кнігу "Па што ідзеш, воўча?", чаму вырашылі перакласці яе на нямецкую?***

- Дзесяць гадоў таму я пераклала на нямецкую два апавяданні Святланы Курс з яе першай кнігі "Шлях дробнай сволачы". З таго часу я сачыла за тым, што яна робіць, і чакала чагосьці новага.

І вось у 2020 годзе выйшла новая кніга. Я звярнулася да выдавецкай ініцыятывы "Пфляўмбаўм", і мне далі яе пачытаць. Пасля таго мне вельмі захацелася яе перакласці.

Выдавецтва "Жолнай" (Zsolnay) з Вены зацікавілася кнігай у пачатку 2022 года. Паколькі ўжо ішла вайна, я прапанавала зрабіць пераклад як мага хутчэй. Бо гэтая кніга так сцісла і выразна паказвае, што такое вайна. У лютым 2023 года яна выйшла па-нямецку.

***- На думку журы Міжнароднай літаратурнай прэміі, у шорт-ліст якой патрапіла кніга, гэта - "жорсткая гісторыя XX стагоддзя, ад сталінскіх чыстак да злачынстваў немцаў". Ці цяжка вам было займацца гэтай тэмай?***

- Я даўно займаюся гісторыяй Усходняй Еўропы і шмат чытала пра яе. Я радая, што нехта змог напісаць пра гэта так дакладна, ясна і коратка, таму што лічу, што менавіта так гэта і трэба фармуляваць. Вядома, можна было б напісаць пра гэта тысячу старонак. Але вялікая моц і адна з прычын, чаму кнігу намінавалі на гэтую прэмію, - гэта прагматычная лаканічнасць, якая, аднак, не чэрства, а вельмі інтэнсіўна апісвае ўсё гэтае стагоддзе.

Я шмат разважала пра гісторыю сваёй сям'і. Мы на іншым баку гісторыі, і, магчыма, менавіта таму першы пераклад кнігі быў на нямецкую. Бо немцы гралі важную ролю ў гісторыі Беларусі. У жорсткім, а не ў станоўчым сэнсе.

Вось чаму важна, каб кнігу чыталі тут. З яе, апроч усяго гвалту, можна шмат даведацца пра жыццё ў Савецкім Саюзе, часы перабудовы, пра людзей, жывёл, прыроду, жыццё ў вёсцы, на балоце.

***- Якія цяжкасці ўзнікалі пры перакладзе? Як вы знаходзілі значэнне рэдкіх слоў, якія ўжываюць жыхары беларускай вёскі?***

- Мне пашанцавала, я магла спытаць Святлану аб чым заўгодна. Я часта адпраўляла ёй словы і пыталася, што гэта значыць. Напрыклад, "мачары" і "цьхумара". Калі іх пагугліць, то выходзяць назвы грузінскіх сёлаў. Насамрэч, першае - гэта ямы на балоце, калі на іх стаць, можна патануць. Другое слова складзена з двух - "цьху" і "мара". Вы як быццам плюеце на багіню Мару, маецца на ўвазе "мяне не хвалюе".

***- Вы калі-небудзь былі ў беларускай вёсцы?***

- Шмат разоў, і гэта было вельмі важна. Праўда, не ў тым рэгіёне, пра які расказваецца ў кнізе, а на поўдні, каля Пінска. У размовах з людзьмі там, думаю, у мяне і развіліся гэтыя захапленне і цікавасць да Беларусі. Бо нашы гісторыі так цесна звязаны. Мы сустракалі там шмат пажылых людзей, якія расказалі нам пра сваё мінулае ў якасці прымусовых рабочых у Германіі з адкрытасцю і ветлівасцю, якая вельмі, вельмі здзіўляла і ўражвала нас, маладых немцаў.

У маіх бабулі і дзядулі так-





сама была свая гаспадарка і фруктовы сад. Таму пра такія рэчы, як хлеў, хатняя жывёла ці прышчэпкі яблынь я ведаю з дзяцінства. Гэта дапамагала мне знайсці адпаведныя словы ў нямецкай. Хоць неяк дзіўна было звяртацца да досведу сваіх нямецкіх бабуль і дзядуляў для пошуку мовы беларусаў, міма якіх у 1941 годзе праязджаў мой нямецкі дзядуля, калі быў на вайне.

***- Перакладчыкаў з беларускай мовы ў Германіі няшмат. Ці адчуваеце вы сябе ў некаторым родзе дыназаўрам?***

- Я вывучала польскую і рускую, а затым знайшла для сябе беларускую. Магчыма, таму што папярэднія дзве мне надакучылі. Я крыху вучыла беларускую ў Менску 20 гадоў таму. Але ў асноўным гэта было саманавучанне.

Я неймаверна ўдзячная ўсім, хто на працягу многіх гадоў паслядоўна размаўляў са мной па-беларуску, таму што заўсёды ёсць альтэрнатыва, што, вядома, ускладняе задачу. Але я заўсёды як быццам чакала чагосьці, з-за чаго яно таго было вартае. У выніку гэтым і стала кніга Святланы. У ёй усё сышлося, і я змагла выкарыстаць усё, чаму вучылася.

Раней многія творы спачатку перакладалі з беларускай на рускую, каб потым перакласці іх на нямецкую.

Пераклад з беларускай на нямецкую - рэдкасць. Але я лічу, што займацца рэдкімі мовамі - гэта значыць быць у авангардзе, а не дыназаўрам. Гэта цудоўная прафесія, хоць аднымі перакладамі з беларускай сям'ю не пракарміць.

Хаця з 2020 года цікавасць да беларускай літаратуры вырасла, і, спадзяюся, гэта будзе працягвацца. У гэтым плане намінацыя на прэмію вельмі важная. А яшчэ цікава і прыемна ўбачыць кнігу ў глабальным кантэксце, побач з літаратурай Лацінскай Амерыкі, Азіі і ўсяго свету.

***Паводле СМІ.***

# Новы рэкорд па колькасці замежных студэнтаў у Германіі

*У мінулым зімовым семестры ў нямецкіх ВНУ навучаліся каля 370 тысяч замежных студэнтаў*



У зімовым семестры 2022/2023 гг. у нямецкія ВНУ было залічана 367578 замежных студэнтаў, што на пяць адсоткаў больш, чым у папярэднім годзе. Устанавіўшы новы рэкорд, Германія абагнала Аўстралію як самую папулярную краіну для навучання і зараз займае трэцяе месца ў сусветным рэйтынгу. Сярод неангламоўных краін яна знаходзіцца на першым месцы.

- Гэта вельмі добрая навіна для Германіі як цэнтра навуковай дзейнасці, у тым ліку з прычыны недахопу кваліфікаваных кадраў, - сказала міністр адукацыі Бетына Штарк-Ватцынгер, каментуючы паказчыкі, апублікаваныя Германскай службай акадэмічных абменаў (DAAD) і Германскім цэнтрам вышэйшай адукацыі і навуковых даследаванняў (DZHW).

Сярод найважнейшых краін паходжання на першым месцы, апярэдзіўшы Кітай, упершыню апынулася Індыя (прыкладна 42 600 студэнтаў-першакурснікаў). Істотна ўзрасла колькасць украінскіх студэнтаў: іх налічваецца каля 9100 чалавек. Германія застаецца прывабнай краінай і пасля завяршэння вучобы: 45 % замежных студэнтаў працягваюць жыць тут на працягу дзесяці гадоў пасля пачатку вучобы - гэта самы высокі паказчык у справаздачы ОЭСР нароўні з Канадай.

- Нямецкія ВНУ аб'ектыўна надзвычай прывабныя для замежных студэнтаў і аспірантаў, і гэта эфектыўны рычаг для пераадолення вострага недахопу кваліфікаваных кадраў сярод навукоўцаў, - сказаў прэзідэнт DAAD, прафесар доктар Джойбрата Мукерджы.

Гэта датычыцца і навукова-даследчых устаноў:

- Не выпадкова ў інстытутах буйных навукова-даследчых грамадаў, такіх як Таварыства Макса Планка ці Асацыяцыя Лейбніца, амаль трацiна навуковых супрацоўнікаў (29 %) - замежнікі. Ва ўніверсітэтах гэтая доля складае 14 %, - падзялілася прафесар Моніка Юнгбаўэр-Ганс з DZHW.

***Берлін (d.de).***

**На здымку:** Студэнты на семінары pictureAlliance/dpa.

# 200 гадоў таму нарадзіўся Уладзіслаў Сыракомля

29 верасня споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння польскага і беларускага паэта, публіцыста, крытыка, перакладчыка і этнографа Уладзіслава Сыракомлі (1823-1862).



***Смольгаў***



Прадстаўнік шляхецкага роду Кандратовічаў гербу "Сыракомля", назву якога потым узяў за псеўданім, нарадзіўся ў фальварку Смольгаў Бабруйскага павета Менскай губерні, у сям'і Аляксандра Каятана Кандратовіча і Вікторыі Златкоўскай, якія паходзілі з паланізаванай беларускай шляхты. Дзяцінства прайшло ў вандроўках па арандаваных бацькам фальварках Смолічы, Яськавічы, Кудзінавічы, Мархачоўшчына на Меншчыне. Пачатковую адукацыю атрымаў дома. У 1833 годзе пачаў вучобу ў Нясвіжскай дамініканскай школе. Калі праз тры гады яе зачынілі, перавёўся ў дамініканскую школу ў Наваградку, якую скончыў у 1837 годзе. Дапамагаў бацькам па гаспадарцы і пачаў пісаць вершы. У 1840-1844 гадах працаваў у канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. Тут ён атрымаў магчымасць знаёміцца з класічнай літаратурай, перыёдыкай, архівам Радзівілаў. Усё гэта дапамагло яму сфарміраваць сваё светаразуменне і стаўленне да гістарычных падзей і рэчаіснасці. У 1844 годзе ажаніўся з 16-гадовай Паўлінай Мітрашэўскай, а пасля вяселля звольніўся са службы і пачаў арандаваць фальварак Залучча ў Наваградскім павеце (цяпер Стаўпецкі раён). Тут цалкам раскрыўся яго паэтычны талент.

У 1852 годзе ў Сыракомлі на працягу тыдня раптоўна памерлі тры малагадовыя дачкі, і ён не меў *"сілы праз свае горкія ўспаміны жыць далей у вёсцы, у мясціне, дзе калісьці жыццё працякала больш шчасліва"*. У верасні 1852 года пераехаў у Вільню, бліжэй да выдавецтваў. Друкаваўся ў газеце "Kurier Wilenski", дзе таксама рэдагаваў аддзел віленскай хронікі. У красавіку 1853 года арандаваў фальварак Барэйкаўшчына, які знаходзіўся паміж Вільняй і Ашмянамі. Пражыў ён тут амаль 10 гадоў, але родная гэта арандаваная сядзіба так і не стала:

“Тут не мае ні дом, ні глеба,
Што родзіць хлеба небагата.
Мае тут толькі сонеч неба,
Якая ўзносіцца над хатай”.

Паэт шмат падарожнічаў па Беларусі, Літве і Польшчы. У гэты ж час адбыліся падзеі, якія прынеслі яму аднначасова і радасць, і буйныя непрыемнасці, непаразуменне знаёмых і сяброў: ён закахаўся ў актрысу Гелену Маеўскую, якая пасля сустрэчы з ім пакінула свайго мужа, этнографа і гісторыка Адама Кіркора, і выехала за мяжу. Калі Маеўская выступала ў Познані, Сыракомля ездзіў на сустрэчу з ёй. Падчас спектакля актрыса, каб болей пабыць з каханым, наўмысна параніла сябе кінжалам. Весткі аб гэтым "грахоўным" каханні выклікалі ханжаскае незадавальненне шырокіх колаў грамадскасці. Каб апраўдацца, Сыракомля напісаў паэму "Стэла Фарнарына", у якой апавядалася пра каханне Рафаэля да дачкі лекара Стэлы, каханне, якое натхніла мастака на стварэнне "Сіксцінскай мадонны". Паэму сустрэлі варожа, шляхта забараняла сваім дочкам не толькі чытаць яе, але нават браць у рукі.

У Познань Уладзіслаў Сыракомля ездзіў не толькі з-за каханай. Ён наладжваў сувязі з патрыятычнымі коламі Прусіі і Аўстрыі, абмяркоўваў магчымасць сумесных дзеянняў. Пасля гэтых паездак за Сыракомлем быў устаноўлены сакрэтны нагляд. У красавіку 1861 года ён выступіў на патрыятычнай маніфестацыі ў Коўне з вер-





шамі. Выехаў з чужым пашпартам у Варшаву, а на зваротным шляху быў арыштаваны і зняволены ў віленскай турме. Знаходзіўся пад арыштам каля месяца. Сябры хутка дамагліся вызвалення Сыракомлі, як хворага на сухоты. Вызвалены пад нагляд паліцыі. У гэты час дом Сыракомлі часта наведвала пачынаючая паэтка Зоф'я Манькоўская, якая даводзілася яму пляменніцай яго швагра. У 1862 годзе паэт падараваў ёй аўтограф верша "Да панны Зоф'і Манькоўскай", чым дабраславіў яе *"спяваць пасля яго на сіратлівай Літве"*. Сілы паэта былі падарваны. Памёр ён у час следства. Пахаваны на віленскіх могілках Роса.

Цалкам паэтычны талент Уладзіслава Сыракомлі раскрыўся ў Залуччы. Дэбютаваў вершаванай гутаркай "Пашталья̈н", напісанай паводле пачутай у Міры гісторыі ("народнай гутаркі") і надрукаванай у віленскім часопісе "Athenaeum" ("Атэнэум", 1844, т. 6). Гутарка была перакладзена ў скарочаным варыянце і стала папулярнай рускай народнай песняй ("Калі я на пошце служыў ямшчыком…"). У "Athenaeum" друкаваліся і іншыя яго вершы і празаічныя творы. Яны пачалі выдавацца і асобнымі зборнікамі, хадзілі ў рукапісах, завучваліся на памяць. Ужо ў падзагалоўку "Пашталья̈на" - "народная гутарка" - вызначыўся асноўны жанр яго паэтычных твораў, героем якіх звычайна быў беларускі селянін або шляхціц. Паэт




падкрэсліваў адзінства сваёй творчасці з народам, яго інтарэсамі і спадзяваннямі. Ён пісаў: *"Не я пяю, а люд божы…"*. У гэты час убачылі свет яго гутаркі "Хадыка", "Высакародны Ян Дэмбарог", шэраг вершаў. Паэт займаўся таксама і перакладамі з латыні, публіцыстыкай, пісаў "Гісторыю літаратуры ў Польшчы". Творчасць Сыракомлі адметная палымяным патрыятызмам, глыбокім веданнем гісторыі Бацькаўшчыны, характару, звычаяў, асаблівасцей нацыянальнай псіхалогіі беларусаў. У сваіх творах ён апяваў хараство наднёманскіх краявідаў, падкрэсліваючы, што яны даражэйшыя за славутыя замежныя. Яго вабілі і гістарычныя падзеі, што сведчылі пра патрыятызм продкаў, пра іх імкненне да свабоды і шчасця, гатоўнасць ахвяраваць сабой дзеля вызвалення Айчыны. Гэты матыў прагучаў у яго творах "Соф'я, княжна Слуцкая", "Марцін Студзенскі". Гораду Нясвіжу і яго былым уладарам паэт прысвяціў 6 санетаў, якія аб'яднаў у цыкле "Успаміны пра Нясвіж". Выказваючы спачуванне і сімпатыю да беднага люду, прапаведуючы дабро і гуманізм, паэт параўноўваў сябе з вясковым лірнікам, які "ў дарагой старонцы будзе граць людзям". Ён лічыў неабходным дапамагчы народу ўсвядоміць, што ён сам гаспадар на сваёй зямлі. Адзін з яго герояў-сялян гаварыў: *"Я край мой кармлю адвеку і маю права звацца чалавекам"*. Паводле Сыракомлі, вялікую ролю ў выхаванні самасвядомасці і годнасці нацыі павінна адыграць гістарычнае асветніцтва. Таму шэраг яго празаічных і навуковых твораў прысвечаны менавіта праблемам гісторыі, этнаграфіі і мовы беларусаў. Сярод іх "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" (1853), "Кароткае даследаванне мовы і характару паэзіі русінаў Менскай правінцыі" (1856), "Менск" (1857), "Нёман ад вытокаў да вусця" (1861), нататкі аб мінулым Нясвіжа для кнігі Балінскага "Старажытная Польшча", шматлікія артыкулы ў перыядычным друку. З друку выйшлі 6 тамоў яго перакладаў паэтаўлаціністаў XVI-XVIII стагоддзяў, некалькі зборнікаў паэм-










гутарак, "Гісторыя літаратуры ў Польшчы…" (т. 1-2, 1850-1852), паэма "Маргер" (1855). У тэатры была пастаўлена яго п'еса "Хатка ў лесе". Перакладаў на польскую мову творы разнастайных рускіх, французскіх, украінскіх, нямецкіх і лацінскіх паэтаў. Пісаў паэт найчасцей на польскай мове. У большасці сваіх твораў адлюстроўваў жыццё ў Беларусі, яе гісторыю. Аўтар апрацоўвак беларускіх народных казак. З беларускамоўных твораў Сыракомлі захаваўся верш "Добрыя весці" (1848, 1861), прысвечаны рэвалюцыйным падзеям у Еўропе. Таксама паэту часта прыпісваецца напісаная па-беларуску лірычная мініяцюра "Ужо птушкі пяюць усюды", хаця газета "Kurjer Litewski", дзе верш упершыню з'явіўся пад іменем Сыракомлі, праз некалькі дзён надрукавала абвяржэнне, паводле якога аўтарам быў Чэслаў Янкоўскі.




Памяці Уладзіслава Сыракомлі прысвяцілі свае вершы Янка Лучына, Адам Плуг, Янка Купала і іншыя паэты. Яго вобраз выведзены ў аповесці Адама Мальдзіса "Восень пасярод вясны" (1984). У Барэйкаўшчыне створаны музей-бібліятэка Сыракомлі, яго імем названа вуліца ў Нясвіжы і Менску. У Варшаве у гонар паэта названыя адразу дзве вуліцы: вуліца Людвіка Кандратовіча і вуліца Уладзіслава Сыракомлі. У Вільні на доме, у якім памёр паэт (вул. Барбары Радзівіл, 3), змешчана памятная шыльда.

*Паводле СМІ.*

# Да 200-годдзя з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі

15 верасня 2023 года Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь выпускае ў аварот канверт з арыгінальнай маркай "200 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі".

Намінал маркі "А" адпавядае тарыфу на перасыланне простага ліста масай да 20 г улучна ў межах Рэспублікі Беларусь.

**Марка.** Кнігі, аўтограф; надмагільны камень, вежа Гедыміна і Вострая брама ў Вільні (з альбома Яна Альшэўскага, 1905 год).

**Ілюстрацыя.** 200 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі (200 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Сыракомлі - на бел. мове, партрэт, замак (з малюнка сярэдзіны XIX стагоддзя) і касцёл Божага Цела ў Нясвіжы (з паштовай карткі пачатку XX стагоддзя), радавы герб "Сыракомля").




Праект падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з Нацыянальным гістарычна-культурным музеем-запаведнікам "Нясвіж".

Тыраж 25 тыс.




Дызайн канверта і спецштэмпеля Святланы Цырулік. Колер масцікі - чорны. У аснове спецштэмпеля - бюст Уладзіслава Сыракомлі, усталяваны на Алеі памяці ў Старым парку каля Нясвіжскага замка. Аўтары Леў і Сяргей Гумілеўскія.



Адмысловае памятнае гашэнне прайшло 29 верасня ў аддзяленні паштовай сувязі №3 г. Нясвіжа.

*Паводле СМІ.*





# Даследчык беларускага тэатра

З тэатральным крытыкам, педагогам, кандыдатам мастацтвазнаўства і даследчыкам беларускага тэатра Арсенем Лабовічам, якому 28 верасня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння, я пазнаёміўся ў 1990-х гадах у Гомелі на адным з мерапрыемстваў, прысвечаным беларускаму тэатральнаму мастацтву. Цэлы тыдзень мы былі ў Гомелі, глядзелі спектаклі, разважалі пра сённяшні тэатр у Беларусі, выказвалі свае суб'ектыўныя думкі пра спектаклі, пра стан сучаснага тэатральнага мастацтва Арсень Лабовіч тады казаў, што традыцыйная, рэалістычная драматургія нібы адышла ў мінулае, а новая не з'явілася. "Асобныя творы як бы з'яўляюцца, але яны другасныя, у іх не хапае арыгінальнасці і навізны, не кажучы ўжо пра нацыянальны каларыт і сутнасць. Галоўны напрамак разлічаны на эпатаж публікі, а не на пранікненне ў сэнс, псіхалогію сучаснага чалавека з яго турботамі, канфліктамі і роздумам, - разважаў Арсень Лабовіч. -Турбуе страта народных каранёў у мастацтве, не столькі ў літаральным сэнсе, колькі ў іх трансфармацыі на сучаснасць, на пераасэнсаванне мастацкіх каштоўнасцей. А радуе тое, што з'яўленне і развіццё інтэлектуальнага патэнцыялу сярод моладзі ў розных галінах грамадскага жыцця, прадчуванне надзеі".



А я Арсеню Аляксандравічу распавёў, што дзесьці ў 70-х гадах мінулага стагоддзя, калі быў яшчэ школьнікам, трапіла аднойчы мне ў рукі невялікая кніжачка, вокладка якой была напалову чырвонай, напалову белай. На вокладцы стаяла прозвішча - А. Лабовіч. Называлася кніжачка "Тэатр змагання". Выйшла яна з друку ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1969 годзе. Думалася, што яна будзе пра вайну, бо тады ваенная тэматыка лічылася самаю папулярнай і сярод дарослых чытачоў і гледачоў, і сярод падлеткаў і моладзі…

Прачытаўшы некалькі старонак той кнігі, я заўважыў, што яна зусім не пра вайну, а пра Заходнюю Беларусь, пра тыя мясціны, дзе нарадзіўся і жыў аўтар. А яшчэ, ён хораша і лёгка апісваў дзейнасць заходнебеларускага аматарскага тэатра, гурткоў мастацкай самадзейнасці. Ды і назвы спектакляў былі знаёмыя і мне, і маім равеснікам - усім вясковым хлопчыкам і дзяўчынкам, бо ў вёсцы іх ставілі мясцовыя артысты, а таксама прывозілі прафесійныя артысты са Слоніма, Гародні і Менска. Гэта найперш пастаноўкі па п'есах "Збянтэжаны Саўка" Леапольда Родзевіча, "Модны шляхцюк" Каруся Каганца, "Пінская шляхта" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, "Прымакі" і "Паўлінка" Янкі Купалы і іншыя. Арсень Лабовіч у той кніжцы таксама пісаў і пра тэатральнае самадзейнае жыццё сваёй роднай Беласточчыны, дзе ён 28 верасня 1923 года нарадзіўся ў вёсцы Студзянкі Беластоцкага павета Падляшскага ваяводства.

З кнігі "Тэатр змагання" Арсеня Лабовіча можна даведацца цікавыя факты. Напрыклад, што ў 1937 годзе ў Беластоку было арганізавана Таварыства працаўнікоў беларускага тэатра "Полымя". Каля двух гадоў працаваў гэты творчы калектыў. А ў лютым 1938 года прадстаўнікі мясцовых улад уварваліся ў яго памяшканне і забралі ўсю дакументацыю - акты, архівы...

Аўтар "Тэатра змагання" апісваў і актыўную дзейнасць студэнтаў з мястэчка Гарадок. У 1933 годзе яны прачыталі болей 20 лекцый аб беларускім тэатры, літаратуры, гісторыі, геаграфіі. Кожная лекцыя суправаджалася дэкламацыямі ці спектаклем. "Так, у Гарадку 8 студзеня 1933 года студэнтка М. Мілючанка прачытала лекцыю "Беларускі тэатр і яго грамадскае значэнне". Гэта мела не толькі пазнавальнае, але і выхаваўчае значэнне", - пісаў даследчык.





Цікава чытаецца кніга Арсеня Лабовіча "Тэатр змагання" і сёння. Яна зусім не "састарэла" ні фактамі, ні зместам, а, наадварот, праўдзіва распавядае пра самадзейны тэатр Заходняй Беларусі - слаўную старонку ў гісторыі беларускага мастацтва. Гэта, сапраўды, быў тэатр змагання, змагання за роднае мастацтва ва ўмовах тых абставін, калі Заходняя Беларусь жыла пад Польшчай Пілсудскага. Пасля няўдалай спробы стварыць прафесійны тэатр у Вільні энтузіясты сцэнічнага мастацтва перанеслі сваю дзейнасць у вёску, дзе наладжвалі работу гурткоў мастацкай самадзейнасці. Масавая сялянская аўдыторыя атрымлівала ад тэатра не толькі духоўны спажытак, але і чэрпала сілы для палітычнай барацьбы. З'яўляючыся дзейсным сродкам этычна-эстэтычнага выхавання гледача, самадзейны тэатр у той жа час уздзейнічаў на фарміраванне грамадскай свядомасці, палітычнай актыўнасці шырокіх народных мас Заходняй Беларусі. Пра гэта пісаў у сваёй кнізе Арсень Лабовіч.

У 1971 годзе беларускі тэатразнавец выдае асобнай кнігай яшчэ адну працу "П'есы А.М. Астроўскага на беларускай сцэне". Аўтар яе сцвярджае, што творчасць рускага драматурга Астроўскага зрабіла значны ўплыў на развіццё тэатральнага мастацтва Беларусі. Пачынаючы з XIX стагоддзя, п'есы Астроўскага былі вельмі папулярнымі ў беларускіх тэатрах. Іх шырока ставілі мясцовыя і паказвалі гастрольныя тэатральныя калектывы. Так, напрыклад, у 1874 годзе ў Гародні былі пастаўлены ажно дзесяць яго п'ес...

Акрамя даследаванняў тэатральнага жыцця Заходняй Беларусі і творчасці Астроўскага на беларускай сцэне, Арсень Лабовіч шмат напісаў і апублікаваў матэрыялаў аб праблемах сцэнічнага ўвасаблення драматургіі Максіма Горкага ў тэатрах Беларусі, пра польска-беларускія тэатральныя ўзаемаадносіны і на розныя іншыя тэмы, звязаныя з нашым нацыянальным тэатральным мастацтвам.

Аднойчы пры жыцці я запытаў у Арсеня Аляксандравіча, як гэта вы, беластоцкі юнак з глыбінкі, надумаліся стаць тэатральным крытыкам?

І вось што ён мне адказаў тады:"Тэатразнаўцам я стаў найперш таму, што адчуў у сабе патрэбу выказаць думкі, пачуцці аб тэатры, да якога мяне прыцягвала патрэба душы, патрэба, так бы мовіць, натуры. А калі канкрэтна казаць, дык першыя крокі ў гэтым кірунку я зрабіў, калі быў студэнтам і па заданні выкладчыка гісторыі тэатра Уладзіміра Іванавіча Няфёда пісаў тэматычныя рэфераты. Затым, калі працаваў акцёрам у Гарадзенскім тэатры, абласным Доме народнай творчасці, выкладчыкам Гарадзенскага культасветвучылішча, пісаў розныя рэцэнзіі на спектаклі. Адначасова адчуў, што такім акцёрам, які разумеў з тэатразнаўчага пункту гледжання, я быць не змагу, таму і перакліфікаваўся ў тэатразнаўца...".




А шлях да тэатральнага мастацтва ў беластоцкага хлопца быў просты. У 1949 годзе ён скончыў Беларускі тэатральны інстытут, пасля заканчэння якога працаваў у культасветустановах Гародні, Стоўбцаў, Навагрудка. З 1959 года - у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Пасля працаваў загадчыкам рэдакцыі мастацтва і архітэктуры выдавецтва БелСЭ, быў загадчыкам кафедры рэжысуры і майстэрства акцёра Менскага інстытута культуры. З 1991 года да апошніх дзён свайго жыцця Арсень Аляксандравіч працаў у Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі. Яго асноўным заняткам было стварэнне навуковых канцэпцый, творчых распрацовак для раскрыцця дзейнасці майстроў беларускай сцэны і музычнага мастацтва ў экспазіцыях музея, адлюстравання іх дзейнасці на радыё, тэлебачанні і Інтэрнэту.

Ніколі не забываў Арсень Лабовіч родную вёску Студзянкі на Беласточчыне. Ён там, хоць і не так часта, але бываў. Бо там жылі і жывуць яго блізкія сваякі.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*




# Сяргею Грахоўскаму - 110 гадоў з дня нараджэння

Сяргей Грахоўскі - паэт, празаік, перакладчык, публіцыст, крытык - адзін з тых, чый жыццёвы шлях быў азмрочаны дзесяцігоддзямі сталінскага ГУЛАГу. 25 верасня Сяргею Грахоўскаму споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння.

Творчасць гэтага таленавітага паэта, а быў ён найперш паэт, вызначаецца ў беларускай літаратуры незвычайна плённымі і важкімі мастацкімі дасягненнямі ў самых розных жанрах, прыцягвае ўвагу гуманістычнай скіраванасцю, шчырым лірызмам і моцным публіцыстычным пафасам.

Нарадзіўся будучы пісьменнік 25 верасня 1913 года ў мястэчку Нобель Пінскага павета Менскай губерні (цяпер Зарэчненскі раён Ровенскай вобласці, Украіна) у сялянскай сям'і. У 1914 годзе разам з бацькамі пераехаў у мястэчка Глуск на Магілеўшчыну. У 1930 годзе пачаў працаваць рабочым на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Потым - карэктарам у Дзяржвыдавецтве БССР, у газеце "Чырвоная змена". Скончыў газетна-выдавецкае аддзяленне літаратурнага факультэту Менскага педагагічнага інстытута (1935), працаваў рэдактарам на Беларускім радыё, выкладчыкам літаратуры на рабфаку пры БДУ.

Амаль дваццаць гадоў Сяргей Грахоўскі быў пазбаўлены свабоды і права займацца любімай творчай працай. Яго беспадстаўна арыштавалі 19 кастрычніка 1936 года, асудзілі на дзесяць гадоў і саслалі на лесанарыхтоўкі. Пасля вызвалення выкладаў расейскую мову і літаратуру ва Урэцкай сярэдняй школе Слуцкага раёна. А ў 1947 годзе з Сяргея Грахоўскага была знята судзімасць. Аднак у 1949 годзе, паэта арыштавалі зноў за прыналежнасць да "антысавецкай нацыяналістычнай групы" і выслалі на вечнае пасяленне ў Навасібірскую вобласць. У Беларусь пісьменнік змог вярнуцца толькі пасля рэабілітацыі 19 кастрычніка 1955 года. Працаваў на радыё, у часопісах "Бярозка", "Вясёлка", літкансультантам Саюза пісьменнікаў БССР, адказным сакратаром Камітэта па дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. У гэты ж перыяд Сяргей Грахоўскі аддаў усе свае творчыя сілы літаратурнай справе, кампенсуючы страчанае, ненапісанае за гады зняволення, выдаў адзін за другім паэтычныя зборнікі. Толькі ў гады "адлігі" і застою выйшлі: "Дзень нараджэння" (1958), "Чаканне" (1960), "Табе зайздросціць сонца" (1963), "Памяць" (1965), "Тры вымярэнні" (1967), "Паэма дарог" (1970), "Зазімак" (1976), "Зачараванасць" (1978), "Асеннія гнёзды" (1982) і іншыя. Пасля вяртання з лагераў і ссылак прыходзіць "другое дыханне" да паэта. Асабліва моцна адчуваецца ў творах пісьменніка повязь з роднай зямлёй, прыпадаючы да якой ён прагна ўдыхаў яе гаючы водар. За незалежную Беларусь, за родную мову Сяргей Грахоўскі змагаўся нястомна, рашуча і сваім палымяным публіцыстычным словам. Нарысы, крытычныя артыкулы, публіцыстыку ён пісаў на працягу ўсёй творчасці, адгукаючыся на самыя разнастайныя, надзённыя праблемы сучаснасці. Працаваў ён і ў прозе - гэта нарыс "Горад маладосці" (1960), зборнік апавяданняў "Які вялікі дзень" (1966),



***Сяргей Грахоўскі***



***За працай***







*З жонкай Валянцінай*



*Генадзь Бураўкін, Язэп Семяжон, Расул Гамзатаў і Сяргей Грахоўскі*

дакументальная аповесць "Рудабельская рэспубліка" (1968), аповесці "Ранні снег" (1975), "Гарачае лета" (1974) і іншыя. У 1988 годзе выдаў зборнік вершаў і паэм "І радасць, і боль". Гэта самая прыкметная і важкая кніга ў творчай біяграфіі паэта. У ёй шмат новых звестак пра ранейшае жыццё самога аўтара і яго таварышаў, незаконна пакараных у 1930-я гады. Асобнае месца ў яго творчасці займаюць дакументальна-мемуарныя творы, прысвечаныя асэнса-ванню трагічнага мінулага. Гэта кніга паэзіі "Споведзь" (1990), аповесці "Такія сінія снягі" (1988), "Зона маўчання" (1990), "З воўчым білетам" (1991), паэма "Балючая па-мяць". У гэтых творах узнаўляюцца







карціны, эпізоды, дэталі нечалавечага лагернага жыцця, якое растаптала маладосць і сілы, але не змагло вынішчыць памяць, веру, надзею. Пісьменнік у падрабязнасцях апісвае ўмовы ла-гернага быту і непасільнай рабскай працы, жыццё ў ачап-ленні лагерных дратоў, аўчарак і вартавых, атмасферу чалавечых адносін. Ён расказвае пра трагічны лёс без віны вінаватых "ворагаў народа", якія ўзняліся над суцэльным страхам і подласцю, не заплямілі свайго сумлення. Разам з тым пісьменнік, як сведка тых падзей, даносіць праўду і пра тых, хто зрабіўся ўдзельнікам крывавых злачынстваў (следчых, суддзяў, канвойных, розных бюракратаў і чыноўнікаў) большасці сваіх сучаснікаў.

Таленавіты пісьменнік прайшоў доўгі, хоць і складаны жыццёвы шлях, пакінуў сваім нашчадкам вялікую колькасць твораў, напоўненых шчырасцю і дабрынёй. Сяргей Грахоўскі - лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за зборнік "Споведзь" (1992), Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова за зборнік "Асеннія гнёзды"(1983), узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за значны ўклад у развіццё беларускай літаратуры, актыўную гра-мадскую дзейнасць (1994), ганаровы грамадзянін Глуска (1995). Спадчына Сяргея Грахоўскага сёння захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

***Паводле СМІ.***




*Мемарыяльная дошка ў Глуску*

*Станіслаў Лорэнц*

# Віленскі альбом

## *(Разліў Віліі і знаходка каралеўскіх магіл - Пошукі магілы Вітаўта - Справа з помнікам Міцкевічу)*

Мы вярнуліся з Італіі ў Вільню адразу пасля падзеі, якая мела незвычайныя вынікі. Рака Вілія разлілася і 26 красавіка 1931 г. затапіла Саборную плошчу. Вада падышла да прыступак фасада катэдры (базылікі) і ўтварыла возера паміж вуглавым будынкам па вуліцы Міцкевіча, дзе месцілася цукерня Рудніцкага і катэдрай. Сабор апынуўся ў небяспецы, але яго стан і раней выклікаў заклапочанасць.

Мы ўсё ведалі пра трывожны стан катэдры і таму пад кіраўніцтвам прафесара Клоса і па ўзгадненні са мной тут вяліся даследаванні. Цяпер, калі падвал сабора затапіла вада, сітуацыя стала небяспечнай і надзвычай трывожнай. Стала відавочна, што патрэбны вялізныя выратавальныя працы і вельмі вялікія выдаткі, прынамсі ў некалькі сотняў тысяч злотых. Па згодзе з ваяводам Бэчкавічам, з аднаго боку, і арцыбіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім і біскупам Казімірам Міхалкевічам, з другога, мы вырашылі стварыць Агульны камітэт выратавання базылікі. Вось тэкст запрашэння на першае пасяджэнне гэтага камітэта:

**"Ваявода Віленскі і Арцыбіскуп Мітрапаліт Віленскі**
**ласкава запрашаюць**
**прыбыць 17 ліпеня гэтага года** [1931] **у 18-00**
**у Вялікую канферэнц-залу Ваяводскай управы**
**на арганізацыйнае пасяджэнне**
**Камітэта аднаўлення Віленскай базылікі.**

Старшынём Камітэта стаў віленскі біскуп-суфраган кс. Казімір Міхалкевіч, першым віца-старшынём маркграфіня Яніна Умястоўская - вельмі багатая жанчына, між іншым, уладальніца Жамаслаўля, які яна ахвяравала Віленскаму ўніверсітэту. Палац у Жамаслаўлі, пабудаваны ў другой палове XIX ст. з'яўляўся копіяй каралеўскага палаца на востраве ў Лазенках (другая копія XIX ст. Лазенкаўскага палаца знаходзілася на Віленшчыне ў маёнтку Тышкевічаў). Фонд маркграфіні Умястоўскай у Рыме і дагэтуль падтрымлівае навуку і культуру. Умястоўская была пажылым чалавекам і ўжо цяжка рухалася. Калі я аднойчы быў у яе ў Вільні, яна прыняла мяне лежачы ў ложку, відаць, звычайна гэтак яна і прымала гасцей. Маркграфіня была вельмі ўсхвалявана знаходкай каралеўскіх магіл у катэдры і лічыла, што павінна асабіста аддаць сваю даніну павагі каралям[1]. Паколькі гэта для яе было немагчыма па стане здароўя, яна выдала візітоўку адрасаваную: *"Вялебнаму прэлату Савіцкаму і сп. Кансерватару доктару Лорэнцу, цяперашнім захавальнікам каралеўскага праху"*, з наступным зместам: *"Марграфіна Умястоўская, Варшава, Алеі Уяздоўскія, 43* [слынны дом, яе маёмасць], *Вільня, Трокская, 19* [яе дом і рэзідэнцыя]. *Ласкава прашу ксяндза-прэлата Савіцкага і доктара Ларэнца аб дазволе спусціцца ў крыпту з Каралеўскім прахам майму адвакату Мацею Яманту, тэл. 10-29, замест мяне"*.

Яе жаданне было выканана. Я ўрачыста ўвёў у крыпту паверанага Яманта (родны ці стрыечны брат Браніслава), каб ад імя маркграфіні Умястоўскай ён пакланіўся каралеўскім парэшткам.

Другім віца-старшынём Камітэта стаў прэзідэнт Падатковай палаты Ян Малецкі, скарбнікам - дырэктар банка Юзаф Каралец, які пазней таксама стаў і скарбнікам Камітэта помніка Міцкевічу, сакратаром - пробашч базылікі, кс.-канонік Антоні Ціхонскі, члены прэзідыума: пробашч базылікі кс.-прэлат Адам Савіцкі, дарадца па справах рэлігій ваяводства Віктар Пятровіч, Тадэвуш Лапалеўскі і я як кансерватар. Старшынём тэхнічнага камітэта стаў дырэктар грамадскіх прац ваяводскай управы Аляксандр Зубялевіч, гістарычна-мастацкага камісіі - Фердынанд Рушчыц, фінансавай камісіі - дырэктар Станіслаў Бялас, а пасля яго смерці - кс. Аляксандр Масціцкі. У рэвізійную камісію абраны старшыня Акруговай падліковай палаты Ян Петрашэўскі, кс.-прэлат Францішак Валодзька і прэзідэнт Адольф Копец.

Работамі кіраваў прафесар Юліюш Клос, тэхнічным кіраўніком, які непасрэдна займаўся справамі, ён прызначыў Яна Пекшу (пазней стаў архітэктарам). Даследаванні пачаліся на пачатку жніўня 1931 г. з капліцы св. Казіміра, дзе падчас паводкі абрынулася падлога. Даследаваліся таксама і ўсе вядомыя склепы і падземныя калідоры, і стала вядома, што патрэскаліся гіпсавыя маркеры, якія мы ўстанавілі ў 1930 г., што, несумненна, сведчыла аб далейшым руху падмуркаў. Падчас даследаванняў у капліцы св. Казіміра, пад алтарным прастолам былі знойдзены дзве урны са сплаву волава і свінцу, у якіх знаходзіліся сэрца і вантробы караля Уладзіслава IV, пастаўленыя сюды 28 чэрвеня 1648 г. Цела караля, які

[1] Гл: Лаўрэш Леанід. Знаходка пахавання вялікага князя ВКЛ і караля Аляксандра і вялікіх княгінь і каралеў Лізаветы і Барбары ў 1931 г. // Наша слова.pdf № 28 (80), 12 ліпеня 2023. - *Л. Л.*







***Віленская катэдра ў 1847 г., злева - замкавая гара, справа гара Бекеша***



***Урна з парэшткамі Уладзіслава IV, разбітая і падчас рабавання ў 1655 г. і знойдзеная ў верасні 1931 г.***

памёр у Мерачы, было перавезена ў Вавель. Шматлікія дзіркі, прарэзаныя ў слоіках, сведчылі аб тым, што праз сем гадоў пасля смерці караля, падчас нашэсця маскоўскіх войскаў, месца пахавання яго парэшткаў было знойдзена і разрабавана -у слоіках шукалі каштоўнасці.

Тыя, хто вёў работы, неадкладна паведамілі аб знаходцы слоікаў з парэшткамі караля. Працу спынілі, паведамілі мне, кс. Савіцкаму і членам гістарычна-мастацкай камісіі. Калі мы разам сабраліся над дзіркай і загадалі выняць бляшанкі з-пад завалаў, прафесар Марыян Марэлоўскі, які часта паводзіў сябе эксцэнтрычна, раптам закрычаў: "Не, кс.-прэлат павінен асвяціць прылады, з дапамогай якіх будуць вынятыя каралеўскія парэшткі". Вельмі засмучаны ксёндз Савіцкі загадаў прынесці з сакрыстыі святую ваду і крапідла. Увесь гэты далікатны час мы ўрачыста стаялі над адтулінай. Калі кс. Савіцкі скончыў чын асвячэння, рабочыя пачалі ламаць друз вакол слоікаў. Але асвечаныя прылады ім не падышлі, рабочыя кінулі іх, узялі іншыя і вынялі слоікі. Гэтак неасвечаныя ламы і рыдлёўкі дакрануліся да каралеўскіх слоікаў.

У далейшым даследаваліся сутарэнні пад бакавымі сценамі і капліцамі і пад галоўным нефам, доступ да якіх быў немагчымы на працягу больш за сто гадоў, бо ўваходныя праёмы былі засыпаны друзам і замураваны Гуцэвічам[2] падчас перабудовы сабора ў другой палове XVIII ст. Пад галоўным нефам выяўлены шэраг асобных крыптаў, не злучаных адна з адной, у іх ляжала шмат безыменных костак. І прафесар Клос, і я чакалі, што, магчыма, пад галоўным нефам мы знойдзем крыпту з каралеўскімі магіламі.

20 верасня пад нефам каля празбітэрыя, з правага боку нефа, была знойдзена раней невядомая крыпта і расчышчаны ад смецця прыступкі, якія вялі ў гэтую крыпту. З-за позняга часу мы вырашылі разысціся, каб толькі на раніцы прабіць замураваны ўваход у крыпту. 21 верасня, пасля восьмай гадзіны, Пекша прыйшоў да мяне ў вая-водскі мастацкі аддзел (гэта было побач з Катэдрай, якраз на другім баку плошчы) і з таямнічым выразам твару сказаў, што раніцай ён адбіў адну з цаглін у замураваным увaходзе ў склеп, пасвяціў унутр электрычным ліхтары-кам і ўбачыў карону - значыць, гэта склеп з магіламі каралёў. Я загадаў яму неадкладна паведаміць пра гэта прафесару Клосу і пайшоў да ваяводы Бэчкавіча. Ваявода адразу патэлефанаваў у Варшаву. Я пайшоў у катэдру і паслаў па біскупа Міхалкевіча і пралата Савіцкага. Яны вельмі хутка прыйшлі ў катэдру. Мы загадалі разбіць сцяну, якая загароджвала ўваход і ўвайшлі ў крыпту - невялікае неатынкаванае скляпеністае гатычнае памяш-канне з чырвонай цэглы. Каралеўскія пахаванні былі ў жахлівым стане! Вада і тут зрабіла страшэнныя спусташэнні. Косці караля Аляксандра Ягелончыка і каралевы Лізаветы, першай жонкі караля Жыгімонта



***Чэрап вялікага князя і караля Аляксандра у кароне, верасень 1931 г.***

[2] Ваўжынец Гуцэвіч, (1753 - 1798) - архітэктар Рэчы Паспалітай, прадстаўнік класіцызму. У 1793-1794 і 1797-1798 гг. выкладаў у Галоўнай школе. З 1793 г. прафесар. Удзельнічаў у паўстанні 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Камандаваў арганізаванай ім жа грамадзянскай гвардыяй ў Вільні, быў паранены ў бітве пад Воранавым. - *Л. Л.*







***Часовы алтар пад балдахінам, усталяваны ў верасні 1931 г. над уваходам у крыпту каралеўскімі магіламі***

Аўгуста, бязладна ляжалі ў гразі, з гразі вынырваў каралеўскі чэрап з каронай, на сырой драўлянай бэльцы ляжаў паламаны і паедзены іржой меч. У параўнальна лепшым стане захаваліся толькі засыпаныя попелам і вапнай у труне парэшткі каралевы Барбары Радзівілоўны.

Рэакцыя вышэйшых уладаў у Варшаве была імгненнай. Ужо 22 верасня "Кур'ер Віленскі" паведамляў: *"21-м гарматным стрэлам адсалютавалі каралеўскім парэшткам"*. Урачыстае набажэнства 23 верасня ў віленскай катэдры ў 10 гадзін раніцы цэлебраваў арцыбіскуп



***Прафесар Міхал Райхер і Станіслаў Лорэнц у крыпце каля труны Барбары з Радзівілаў, з правага бока паліца з каронай каралевы Лізаветы***



***Карона каралевы Лізаветы на полцы ў крыпце, кастрычнік 1931 г.***

Ялбжыкоўскі. На набажэнстве прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх уладаў. Падчас набажэнства зазванілі званы ўсіх віленскіх касцёлаў, адначасова спецыяльна размешчаныя батарэі далі 21 гарматны стрэл. *"... з раніцы войска заняло варту перад каралеўскім склепам. У першы дзень гонар несці тут службу атрымаў 19-ы полк палявой артылерыі"* - *"Прыпыненне руху транспарту на Кафедральнай плошчы"* - *"Пячаткі на крыпце: адтуліна, праз якую можна патрапіць у крыпту, замацавана жалезнымі кратамі з накладаннем пячаткаў* [...] *Сёння пячаткі будуць зняты толькі падчас наведвання крыпты маршалкам сенату панам Рачкевічам"*, які, даведаўшыся пра знаходку, адразу ж прыехаў у Вільню. Я асабіста атрымаў дзве пячаткі для апячатвання чырвоным сургучом: 1-ю з арлом і надпісам вакол яго: *"Польская Рэч Паспалітая Віленскае ваяводства"*, 2-я з гербам Віленскага кафедральнага капітула ў цэнтры і з надпісам вакол яго: *"Sigillum Capituli Cathedralis Vilnensis"*. Толькі я меў права здымаць пячаткі, і я адказваў за іх накладанне. Гэта працягвалася да таго часу, пакуль са склепа не вынеслі каралеўскія парэшткі, інсыгніі і каштоўнасці.

22 верасня пад кіраўніцтвам прафесара Рушчыца было аформлена тое месца ў галоўным нефе, дзе знаходзіўся ўваход у крыпту. Кіраўніцтва грамадскага камітэта звярнулася да ўсіх прадстаўнікоў улады і прэсы, каб пакланіцца каралеўскаму праху, прыйсці ў базыліку ў сераду 23 верасня.

Віленскае радыё адразу арганізавала перадачу пад назвай "Адкрыццё каралеўскіх магіл у Віленскай базыліцы". Перадачу вёў Вітольд Гулевіч, у ёй удзельнічалі біскуп Бандурскі, Рушчыц, Клос і я.

Прафесар Міхал Райхер з Універсітэта Стэфана Баторыя, анатам і антраполаг, і яго дацэнт, доктар Вітольд Сыльвановіч (пасля вайны прафесар Лодзінскага ўніверсітэта) былі запрошаны правесці даследаванні і падрыхтаваць каралеўскія парэшткі для пераносу ў імправізаваны маўзалей. Яны павінны былі супрацоўнічаць са мной.

Рушчыц, Сляндзінскі, Хопен і Квяткоўскі рабілі ў





крыпце малюнкі каралеўскіх парэшткаў, Булгак зрабіў некалькі фотаздымкаў, а я падрыхтаваў інвентарны вопіс. Хопен зрабіў павялічаныя ў два разы акварэльныя выявы пярсцёнкаў. Пазней Квяткоўскі напісаў вялікую карціну (сёння знаходзіцца ў музеі ў Ольштыне, падарунак кагосьці з віленцаў), на якой намалявана група з адзінаццаці чалавек у крыпце побач з труной Барбары Радзівілоўны. Пасярэдзіне Райхер і я, справа Рушчыц і біскуп Міхалкевіч, ніжэй Пекша, злева Сляндзінскі, Бранштэйн, Ліманоўскі, Сільвановіч, Хопен і рысаваль-шчык, якога я не пазнаю. Кампазіцыя, вядома, цалкам адвольная, такая група людзей у крыпце ніколі ўся разам не збіралася. Квяткоўскі прапусціў прафесара Клоса, якога трэба было намаляваць сярод іншых бо ён займаў важную пасаду ў камітэце, але мастак не любіў Клоса. Аднак Пекша быў намаляваны і гэта не выпадкова. Пекша і яго сябры распаўсюдзілі весткі, што менавіта ён знайшоў каралеўскія магілы. Гэта, вядома, няпраўда. Адкрыццё было зроблена ў ходзе даследаванняў, якія праводзіліся ўсім камітэтам і найбольшую заслугу маюць тыя, хто планаваў даследаванне, у першую чаргу Клос, а ў другую - я. Пекша на раніцы, калі Клоса яшчэ не было, прабіў дзюру ў цаглянай сцяне, што з'яўлялася недапушчальнай нелаяльнасцю[3]. Мы з Клосам павінны былі першымі ўбачыць карону Аляксандра Ягелончыка.

Мечыслаў Ліманоўскі ў кракаўскім "Ілюстраваным Кур'еры Штодзённым" ад 26 лістапада 1931 г. пісаў пра парэшткі Аляксандра Ягелончыка:

"*Перад намі косці караля Аляксандра ў гразі, у чорнай, вільготнай слізі, якая з'яўляецца вынікам гніення, гніення труны, цела, усіх тканін, у якія некалі было апранута цела. Кансерватар доктар Лорэнц і прафесар Райхер надзелі гумовыя пальчаткі, каб беспакарана капацца ў гразі і выбіраць з яе косці. Прывезлі драўляныя падносы, пакрытыя бляхай і вялікай колькасцю белага лігніну, які замяняе вату. Бачым, што чэрап караля можна падняць без усялякіх праблем. … Усе косткі ляжаць свабодна і іх таксама можна выняць.*

*У гэтым склепе бачым шакуючае, незвычайнае відовішча: у яркім святле дзвюх электрычных лямпаў чырвоныя рукі акунаюцца ў чорную слізь і ўважліва абмацваюць кожную яе часцінку, каб знайсці косці ці іншыя трывалыя прадметы. Праца мастакоў ідзе побач з пошукам. З чэрапа была знятая царская карона. Проста пад чэрапам два залатыя пярсцёнкі [...] Зноў глядзім на працу чырвоных рук у гумовых пальчатках. Прафесар Райхер і доктар Сільвановіч, як у моргу, апрануты ў белыя халаты, доктар Лорэнц у сваім шэрым кіцелі падобны на супрацоўніка пахавальнай канторы [...]*

*[Падчас пахавання] хто яшчэ быў ля труны, калі не Алена Іванаўна[4], дачка маскоўскага цара Івана Васільевіча, якая ў гэтую жалобную гадзіну выканала свой апошні абавязак перад мужам і пакінула ў труне знакі, якія павінны былі прадухіліць нядобрае [. ..] Пасля адзінаццаці гадоў шлюбнага жыцця, сярод лацінскіх спеваў, яна не адмовілася ад паклонаў і забабонаў, якія прымусілі яе дадаць да сакральных рэчаў два аднолькавых кольцы-пярсцёнкі, усе каб спыніць злых духаў, якія маглі і далей перашкаджаць замагільнаму жыццю Аляксандра [...]*

*Праца падыходзіць да канца. Склеп злева ад труны Барбары ачышчаны. Стаяць бляшаныя вёдры, у якіх перанеслі гразь і чорную жыжу. Побач знаходзяцца драўляныя падносы, пакрытыя белым лігнінам, на якіх ляжаць рэшткі труны. Косткі складзеныя ў вялікай труне, якую неўзабаве вынесуць адсюль. Выходзім з падзямелля і бярэм труну, каб перанесці яе наверх, у памяшканне, якое даў капітул для далейшай працы. Незвычайна выглядае гэты перанос. Са свечкамі [...] падымаемся па лесвіцы [...] Нясуць труну [...] і гэта між волі стварае ўражанне нейкага дзіўнага пахавання..."*

На пачатку снежня прафесар Ліманоўскі пісаў у "Ілюстраваным Кур'еры Штодзённым" пра парэшткі каралевы Лізаветы ў віленскай крыпце: *"Пачынаем другі акт, выняўшы косткі караля Аляксандра, здабываем парэшткі Лізаветы, або Гальшкі, як называў сваю першую жонку Жыгімонт Аўгуст. За Барбарай у склепе ля сцяны стаяла труна, каля якой на сцяне мелася дошка разам з ланцугом і каронай [...] Чэрап каралевы ляжыць ля сцяны. Ён адкаціўся, валасы якія засталіся на чэрапе, маюць яшчэ светлы колер [...] Мы працягваем шукаць. Кансерватар доктар Лорэнц і прафесар Райхер, усё яшчэ шукаюць косці ля сцяны. Знаходзяць залаты медальён з выявай Жыгімонта Аўгуста. Медальён быў на шыі, знайшоўся і ланцужок ад яго. Ёсць і пярсцёнак. Брыльянты зіхацяць, пазначаючы абрысы лілеі. Вапняковыя камякі паказваюць, што цела ў труне было пакрыта вапнай".*

[3] Прэса паведамляла, што асобамі, якія першымі ўвайшлі ў пахавальную крыпту, сталі памочнік прафесара Клоса архітэктар Ян Пекша і тэхнік Казімір Вількус. Вількус потым успамінаў: *"Паразважаўшы, мы дамовіліся, што я зайду першым і асвятлю ўваход знутры. Я ўціснуўся першым і асвятліў уваход для Пекшы. Калідор сапраўды быў вельмі вузкі але я, ідучы паперадзе, асвятляў падлогу, і гэтак мы патрапілі ў невялікі склеп памерам 3х4 м. Перад вачыма паўстаў дзіўны від. Перад уваходам, у гразі і друзе, у святле ліхтарыка я нешта ўбачыў. Спачатку падумаў, што гэта шлем, але гэта быў чалавечы чэрап з каронай. Я скіраваў святло ўправа - у куце крыпты, на камені, які тырчаў са сцяны, красавалася карона". - Л. Л.*

[4] Пра яе, гл: Марозава С.В. Вялікі князь літоўскі Аляксандр - Алена Маскоўская: дынастычны шлюб (1495 г.), які не прынёс Усходняй Еўропе міру // Мир для женщины - женщины для мира: материалы 5-й Междунар. науч.-практ. конф.. Гродно, 2016 . С.284-289.: Скарбы каралевы Алены (пераклад Леаніда Лаўрэша) // Наша слова.pdf № 49, 7 снежня 2022.





28 кастрычніка адбылося адкрыццё саркафага каралевы Барбары Радзівілоўны. Як паведамлялася ў віленскай прэсе, *"гэтую цяжкую і адказную працу ўзялі на сябе прафесар анатоміі Віленскага ўніверсітэта, доктар Міхал Райхер і кансерватар ваяводскай управы доктар Лорэнц [...] зняты блокі вапны каля галавы каралевы і адкрыўся дасканалы чэрап з каронай са звычайнага металу, пакрытыя той самай масай, якая пакрывала цела* [вапняковая маса]." *"У 7 гадзіну вечара, пасля таго як паднялі адзін з фрагментаў застылага вапнавага раствору, стаў часткова бачны невялікі скіпетр, малы яблычак інсыгніі і металічная таблічка, якая ляжала на грудзях".*



***Парэшткі каралевы Барбары з Радзівілаў - карона, скіпетр, на грудзях на залатым ланцугу таблічка з надпісам, кастрычнік 1931 г.***

Мы з вялікай цырымоніяй аднеслі інсыгніі на захаванне сакрыстыю. Першым пайшоў кс. прэлат Савіцкі, за ім на спецыяльным падносе інсыгніі нёс прафесар Рушчыц, побач з ім быў прафесар Райхер і я, астатняя частка працэсіі складалася з членаў гістарычна-мастацкай камісіі, і, зразумела, прафесар Клос ішоў разам з намі. Працэсія праходзіла ў цішыні, якую толькі парушыў Марэлоўскі, які падбег да Рушчыца і расчулена сказаў: "Фердынанд, Фердынанд, як я рады, што ты нясеш каралеўскія знакі".

Яшчэ ў крыпце я перапісаў тэксты з абедзвюх таблічак.

Тэкст з труны каралевы Лізаветы, вядомы з "Monumenta Sarmatorum" Старавольскага і "Вільні" Крашэўскага, вось ён:

CONDITUR HIC ELISABETH FERDI: RO: UNGA: ET BO
HE: REGIS FILIA. CAROLI: V: IMPERATORIS NEPTIS
SIGISMUNDI AUGUSTI REGIS POLONIAE ET MAGNI
DUCIS LITHWA: CHARA CONIUX PRAECLARA VIRTU
TE EGREGY, CUM ANIMI. TV CORPORIS DOTIBUS
ORNATA, PROLIS EXPERS. MORBO COMITIALI
OMNIU
INGENTI LUCTU ET MERORE VILNAE ANNO AETA
TIS SVE 18. REGNI SVI 3. ANNO VERO DOMINI
1545. DIE 15 MENSIS IUNY. MORITUR.

Невядомы тэкст таблічкі Барбары Радзівілаўны абвяшчае:

BARBARA QVE TEGITUR TUMULO: REGINA SUB ISTO
AUGUSTI CONIUNX ALTERA REGIS ERAT
COMMODA MULTA TULIT MULTIS: INCOMMODA
NULLI
A QVA SE LESUM: DICERE NEMO POTEST
IMMATURA OBYT DECIMA TRIETERIDE CEPTA
BIS VIDUOS FATIS LINQVERE IUSSA THOROS
OCCIDIT ANTE DIEM: AT QVAM VIS ANUS ILLA
FUISSET
DICERET AUGUSTUS: OCCIDIT ANTE DIEM
CORONATA. 7. DECEMBRIS ANNI. 1550 OBIIT. 8 MAEII.
1551

У наступныя месяцы і гады ўся Вільня была заклапочана выратаваннем катэдры і пытаннем захавання каралеўскіх магіл.

У суботу 16 студзеня 1932 г. па ініцыятыве Таварыства мастакоў у Малой Ратушы адбылася мая лекцыя пра каралеўскія магілы, якая скончылася заклікам збіраць ахвяраванні для Камітэта выратавання Віленскай базылікі, бо далейшая праца будзе патрабаваць вялікіх выдаткаў. На лекцыі прысутнічалі арцыбіскуп Ялбжыкоўскі і біскуп Міхалкевіч. А ў пачатку 1933 г. я падрыхтаваў дзесяцістаронкавую брашуру пад назвай "Выратуем віленскую базыліку", яе выдаў Камітэт.

Я інфармаваў, што пад капліцай св. Казіміра, дзе кароль Жыгімонт III меў намер паставіць каралеўскія труны, ужо пачалося будаўніцтва маўзалея. Што тычыцца плана кансервацыйных работ, дык стала зразумела, што найбольш пільнай справай ёсць забеспячэнне пярэдняга порціка, бакавых каланад, сцен і ўнутраных слупоў. Пасля завяршэння даследаванняў, 1 чэрвеня 1932 г., Камітэт даручыў распрацаваць дэталёвы праект кансервацыі і прызначыў кіраваць працамі інжынера Генрыка Вансовіча з Варшавы, які прыцягнуў да супрацоўніцтва Пекшу і інжынера Юрэвіча. У пачатку верасня 1932 г. для забеспячэння бяспекі падчас работ вакол порціка пачалі будаваць драўляныя рыштаванні. Праект умацавання порціка заключаўся ў тым, каб абаперці яго на паўсотні жалезабетонных паль, заглыбленых на дзевяць ці дзесяць метраў у зямлю. Работы на падмурку порціка былі завершаны 15 лютага 1933 г. Паколькі порцік з-за апускання падмуркаў нахіляўся ў бок Сабornай плошчы, вышэй скляпенняў порціка было закладзена адзінаццаць жалезных сцяжак.

У канцы сваёй брашуры я паведаміў, што праца будзе доўжыцца некалькі гадоў і будзе каштаваць яшчэ восемсот тысяч злотых. Віленскае грамадства аказвала шчодрую матэрыяльную дапамогу, але самастойна справіцца не магло. Таму мы звярнуліся з самым настойлівым заклікам да ўсяго грамадства ратаваць віленскую базыліку.

***Пераклад і каментары Леаніда Лаўрэша.***

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *У школе, казіно і доме дружбы: Грынкевіч, Левановіч, Сільнова; звязаць свой край з зямлёй індзейцаў*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-39 (53-91) за 2023 г.)*

Гомельшчына - не перш за ўсё і не вышэй за ўсё, а хутчэй ніжэй за ўсе іншыя вобласці Беларусі па розных паказчыках. Такая спадчына павятовага, а не губернскага цэнтра, да якой дадаліся і іншыя, пазнейшыя неспрыяльныя фактары. Вобласць складаецца з перыферыйных частак былых Магілёўскай і Менскай губерняў і малечкага кавалка Чарнігаўскай і мае свой палітыка-псіхалагічны комплекс, які звязаны з магутным уплывам трох іншых этнасаў. "Падцягнуць" яе да добрых "індзейскіх" стандартаў нам удалося толькі дзякуючы натуральнай павышанай увазе да сваёй тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі.

Займаючыся з 1984 г. сувязямі Беларусі з Заходнім паўшар'ем, найперш з яго карэнным насельніцтвам, мы ўсё ж за прыярытэт лічылі факты, якія адносіліся да Гомельшчыны. Такім чынам, маючы, як правіла, істотны амерыканісцкі змест, былі распрацаваны і пабачылі свет біяграмы Ядвігі Марціноўскай, Давіда Выгодскага, Анатоля Ісачанкі, Міхаіла Будыкі, Іасафата Залескага, Сямёна Бытавога, а таксама Міхаіла Елісеева, Аляксандра Аскеркі, Мікалая Бажанава, у якіх мы таксама хацелі "гіпертрафіраваць" амерыканскі кампанент. Гэты кампанент, а яшчэ больш важны індзейскі ў Мікалая Грынкевіча быў такі нечакана новы і багаты фактурай, пра якую марылася, што заняў пошукамі дэталяў каля паўтара дзясятка гадоў.

Мноства выхадцаў з Гомельшчыны, якія былі ў тых ці іншых формах кантактаў з індзейцамі, згадваецца ў розных нашых публікацыях. Засталіся ў выглядзе неапрацаваных зборак сотні цікавых персаналій нашых землякоў. Па сутнасці, гатовага прадукту зроблена вельмі мала. У многім мы засталіся з марамі канца 1980-х. Уключаючы мары пра "згуртаванае краязнаўства". Зваротаў да краязнаўцаў Гомеля і Гомельшчыны - Ю. Глушакова, А. Снітко, У. Райскага, М. Шуканава, А. Зелянкоўскага, С. Бельскага, М. Шэпелева, А. Патапава - было няшмат, водгукаў на ідэю аб'яднання - яшчэ менш, але моманты неабыякавасці не забываюцца.

Уладзімір Урбановіч з вёскі Валеўка Навагрудскага раёна, якога энцыклапедыі адносілі на некалькіх самых знаных краязнаўцаў Беларусі (нагадаем і ацэнку ў матэрыяле С. Чыгрына ў "Нашым слове" 2021 г. "Вандроўнік шляхамі паэтаў і герояў": *"У 1960-1990 гадах быў самым вядомым у Беларусі краязнаўцам, педагогам, вандроўнікам, калекцыянерам і музейшчыкам. А яшчэ - шчырым беларусам, дэлегатам Устаноўчага з'езда Таварыства беларускай мовы ў Менску"*), адказаў нам 19.03.1988 г.: *"Рады, што і гамяльчане звярнуліся к краязнаўству, к гісторыі роднага краю, бачаць у ім вялікія магчымасці для патрыятычнага і інтэрна-*

**Letter from local lore researcher / historian Uladzimir Urbanovich 1988-03-19 p. 1 of 2**

**Ліст ад краязнаўца У. Урбановіч 1988-03-19 p. 2 of 2**

КУРЬЕР "МЕЧТА И ЦЕЛЬ" №I 8 марта 1981 г. -3-

НУЖНА ЛИ МОЯ РАБОТА?

Подготавливаемая редактором монография "Апачи" представляет собой попытку на основе письменных источников обобщить историю и культуру группы индейских племен Северной Америки. Эта работа имеет в некоторой степени престижный характер, поскольку призвана дать ответ на вопрос напрасно ли были прожиты три года жизни автора?

Белоруссия, родина пишущего монографию человека, находться в во многих тысячах километров от Юго-Запада Северной Америки, где жили и поныне продолжают жить индейцы апачи. Трудно представить себе более отдаленный в географическом, культурном и историческом - отношениях район мира. И тем не менее он стал близким и родным автору. Закономерно возникает вопрос зачем советскому человеку изучать проблематику индейцев, в частности апачей, и какую пользу это изучение может принести его народу и обществу? Ведь известно, что в истории и этнографии Советского Союза есть еще много непознанного.

В США и других странах Запада публикуется множество посвященных индейцам работ. Нет, кажется, такой стороны жизни индейцев, которая не была бы самым подробным образом проработана в них. Какую же пользу принесла самим индейцам эта поистине всеобъемлющая исследовательская деятельность? Они продолжают бедствовать, подвергаясь почти во всех странах Америки, особенно в США, различным формам эксплуатации.

Большинство авторов исследований по индейцам - буржуазные ученые, и они характеризуют историю индейских народов, отношения между индейцами и европейцами с сугубо класоовых позиций, часто умышленно фальсифицируют исторические факты. Особенно ярко это выражается в отношении апачей, оказавших самое упорное сопротивление европейским колонизаторам. К работам, освещающим ход борьбы апачей с интервентами из Европы следует относиться особенно критически. А в противовес им раскрывать истинную историю этих индейских племен и рассеивать маскирующий их подлинную судьбу туман.

Люди всего мира должны знать правду о апачах и других малых народах. Люди всего мира должны внести свой вклад в освобождение от угнетения индейские народы Америки.

Монография "Апачи" - скромный вклад в это великое дело ее автора.

А.В.С.

*******

Редакция курьера "Мечта и Цель" поздравляет с Международным Женским Днем всех славных женщин Земли, в первую очередь индианок, маори, женщин коренных жителей Австралии и Океании и всех племен апачей, а также тех женщин, которые в недалеком будущем станут членами межзвездных экспедиций. Редакция желает им Счастья.

...

В седующих Курьерах читайте очерк Симакова А.В. "Роль женщины в хозяйственной, семейной и общественной жизни апачей".

***"Курьер "Мечта и цель" " № 1 (8.03.1981) с. 3 На апошняй, 4-й стар. была спроба мастацкага твора А. Сімакова "Взгляни, ангел, на дом свой..." - з запазычанай назвай і штосьці жахлівае, але юнацтва вымагала пошукаў***

"адпавядалі" індзейцам яшчэ ў параўнаннях з часоў Адама Нарушэвіча.

**Літ.:**

*6924 Урбановіч У. А. Дамейка Ігнат // Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Карэліцкага раёна. Мн., 2002. С. 66-69.*

*2475 Шуканаў М. "Вясёлка" - царства дзяцей // Новы дзень. 1993. 11 жн.*

*6088 Шуканаў М. Баршчоўка // Новы дзень. 2001. 5 ліп.*

*11837 Шуканаў М. З хутароў - у Слабаду, якая стала Аляксандраўкай // Новы дзень. 2020. 5 чэрв.*

*8280 Шуканаў М. Летапісец Шчэдрына: (Памяці пісьменніка-краязнаўцы) // Краязнаўчая газета. 2008. № 2 (студз.). С. 4. ("Ён быў адным з апошніх магікан былога яўрэйскага мястэчка Шчэдрын" (в. Шчадрын Жлобінскага раёна.)*

*9691 Шуканов Н. В. За все - слава Богу: записки краеведа. Мн., 2016.*

*11285 Шуканов Н. Жлобинщина Православная: записки краеведа. Мн.; Жлобин, 2018.*

*8875 Шуканаў М. Рагачоўшчына рэлігійная вачыма Аляксандра Патапава // Краязнаўчая газета. 2012. № 22 (чэрв.). ("Мікола Шуканаў г. Жлобін".)*

**ГРЫНКЕВІЧ Мікалай** (19) - ташкенцкі і каракалінскі эпізоды ў жыцці Грынкевіча разам можна назваць яго туркестанскім перыядам; жыццё ў паўднёвым Туркменістане была параўнальна кароткім.

Хаця на Узбекістан прыходзіцца львіная доля яго біяграфіі і ўзбекская мова, узбекскі пераклад больш важныя, мы не здолелі завяршыць поспехам спробы ў Uzbek subproject па нататцы "Пра школу", здолелі - з туркменскай мовай, дзякуючы значнай прысутнасці ў Беларусі туркменскіх студэнтаў. Пераклад быў зроблены да таго, як стала вядома, што Грынкевіч быў у ссылцы на тэрыторыі Туркменістана, у цяперашнім Махтумкулі, тады Кара-Кале, - міла і эпічна правёў пэўны час, выкладаючы ў школе і ловячы рыбу. Мы не думаем, што ён шкадаваў і лічыў згубленым гэты адрэзак свайго жыцця.

B. Schneuwly
Université de Genève
Faculté de Psychologie et des
Sciences de l'Education
9, route de Drize
CH-1227 Carouge
Switzerland

March 26, 1996

Dear Colleague:

We would like to know more about the idea and program of your Second Conference to be held in order to mark the centenary of Vygotsky and Piage. Have you invited psychologists from the CIS and, for example, Lev Vygotsky's daughter Gita Lvovna Vygodskaya or/and her close friend and Vygotsky' biographer Tamara M. Lifanova? T.M.Lifanova's address is: Russia, 117593, Moskva, [redacted], home tel. (095) [redacted].

We are interested and would be happy to obtain any proceedings of the Conference. Our library is open to professionals and the public.

We have no information on the Society for Socio-Cultural Studies, so your short update would be appreciated.

We wish you fruitful work.

Sincerely,

(Mr.) Ales Simakou
Executive Secretary

***Letter to Dr. Bernard Schneuwly 1996-03-26. Ліст прысвечаны Л. Выгоцкаму, але школа ў Сан-Францыска - гэта таксама "педагагічная псіхалогія". І якраз у Каружы, у выдавецтве Элпідзіна, адбылася адна з трох вядомых нам дарэвалюцыйных публікацый "Пра школу" Грынкевіча***

Туркменскі пераклад зрабіла ў Гомелі Дурсун Хамраева. Яна з Туркменабада (Чарджоў), вучылася на факультэце псіхалогіі і педагогікі ГДУ па спецыяльнасці "Псіхалогія". Яна была адной з лепшых выпускніц сярэдняй школы і прыехала вучыцца ў Гомель па праграме міжурадавага абмену. У яе анкеце ў адной з сацсетак адзначана, што галоўнае ў жыцці для яе - сям'я і дзеці, галоўнае ў людзях - смеласць і ўпартасць. Яна мусульманка і не дзіўна, што адзначаны яе негатыўныя адносіны да курэння і алкаголю (у той час як "пазітыўныя" адносіны да іх фіксуюцца не толькі ў асобных педагогаў, але і ў некаторых вучняў нашай школы ў Сан-Францыска).

"Адмоўнікаў" у нашым праекце было досыць шмат - можна зразумець гэтую з'яву і як звычайнае нежаданне рабіць што-небудзь, што не аплачваецца (гэта назіраецца і сярод беларусістаў), і як перасцярогу, нежаданне звязаць сваё імя з тэмай "child abuse", няхай і ў






***Envelope from Faculte de Psychologie et des Sciences de l'Education, Universite de Geneve (Carouge) postmark 1996-05-24, received 1996-06-05 Envelope from Faculte de Psychologie et des Sciences de l'Education, Universite de Geneve (Carouge) postmark 1996-05-24, received 1996-06-05***




***Картка рэгістрацыі: з факультэта псіхалогіі і адукацыйных навук Жэнеўскага ўніверсітэта (Каруж) 1996-06-05***

далёкай Амерыцы: чалавек нібыта павінен падпісаць петыцыю. Гэтымі двума асноўнымі бар'ерамі механізм прыняцця рашэнняў у патэнцыяльных перакладчыкаў нататкі і дадатковых тэкстаў, зразумела, не абмяжоўваецца.

Для туркменскай жа студэнткі, блізкай да кафедры сацыяльнай і педагагічнай псіхалогіі ўніверсітэта ў Гомелі, было больш лёгка і натуральна згадзіцца ўнесці ўклад у праект, прысвечаны праблемнаму школазнаўству. Мы думаем, што віктарыянскі перыяд, Каліфорнія і "Галівуд", Аляска, "рускія" і прывязка да Беларусі, Туркестан (а замест яго - многія з куткоў Зямлі, адкуль былі тым ці іншым чынам звязаныя са школай у Сан-Францыска) - усё гэта можа дадаваць інтрыгу і ў азнаямленне з нашымі тэкстамі, і ў валанцёрскі пераклад іх. Найбольш важныя мовы, для якіх мы пасля некалькіх спроб не змаглі знайсці перакладчыкаў, - нямецкая (бадай, спроб было нават шмат), партугальская, грэчаская, румынская, узбекская, японская, кітайская і іўрыт.

"Перевод с русского на туркменский Дурсун Хамраевой" (Рус дилинден туркмен дилине терджиме эден Дурсун Хамраева) частак "Доктор Руссель о Николае Гринкевиче" (Доктор Руссель Николай Гринкевич барада) і "Гринкевич, Николай. О школе" (Гринкевич, Николай. Мекдеп барада) быў атрыманы па электроннай пошце 16.06.2014 г.

*""Гарга гарган гозини чакмаз", дийен созлере ейерип гуллукчыларын ве руханыларын шикаятына азаджык ынанмазчылык билен гарадым, мумкин улалытмаларам бардыр, йоне эпискобын озинин архипастыр хокмини йоретяр эджиздже чагаларын щикаятына бипервай гарап билмедим. Онсонам менин янымa дини академияны гутаран ве озини серхош ягдайда алып баранына джериме учин псаломчы хокмунде Америка уградылан Гринкевич атлы била коплeнч гелип гидярди. Ол мекдеп дузгунлери барада бихая затлары гуррун берярди ве онун айдан созлери бетбагт чагаларын шикаятларыны тассыклаярды. Мен она мектедте болуп гечян эдепсизликлери кагызда беян этмеги хайыш этим. Гринкевич менин хайышымы йерине йетирмяге гаршы болмады ве онун ашакдакы язан белликлерини сизе созме-соз беян этмекчи, себяби ол Владимире гоян дузгунлерини говы хясйетлендиряр.*

### *МЕКДЕП БАРАДА*

*Медепде 23 оглан. Олар 3 сынпа болунен. Сынп отаглары сапак хокмунде хем уланыляр. Рекреакцион сагатлар учин отаглар йок. Хемме сынп отаглары ашакгы гатта йерлешяр. Оларын икиси хем чам эдилен китаплары окамаз ялы дереджеде орян пес ягтыландырылан. Хова чалшыш йок. Чыг ве ярамаз ыс. Икинджи сынп ве нахархана бир отагда йерлешяр.*

*8-яшлы он бяш яшлылырын дузгунуне бойун болып, шоларын дурмушыны яшаярлар. Оларын дерслеринин саны шейле: мугаллымлар билен сынп сагады 3 1/2 сагат (1 1/2 дан агшам 5-е ченли), окува таййарлык 3 сагат (ирден 8-11), айдым саз 2 сагат (11-12 ве агшам 5-6), бутхана гуллугы 2 сагат (ирден 6 1/2 - 7 1/2). Шенбе ве байрамчылык гунлери гуллугын догамлылыгы гунне 6 сагада ченли артяр. Чагалары узын сачлы болмага меджбур этялер, шол себяпли битлер копеляр…*

*Епископ ози билен гелен огланларын пулуны пулларыны алды. Оларын хеммесине прогонлар берилди ве олардан херсине 200 доллардан говырак галды. Гелен огланларын бирначеси Аляска уградылды ве хич хайсына пул берилмеди, ин болманда хайсыдыр бир эшик алмага, бейлеки герекли затлара гарамаздан". [trans. into Turkmen by Dursun Khamrayeva] (Тлустым шрыфтам - месцы з колькасцю гадзін заняткаў, прапушчаныя нашым перакладчыкам і ўзноўленыя намі з дапамогай Google Translate і з заменай выніку на кірыліцу.)*

*(Гринкевич, Николай. Мекдеп барада / рус. терж.*





*[тердж.] эден Дурсун Хамраева // Веснік БІТ. 2014. 20 чэрв. № 34; Доктор Руссель Николай Гринкевич барада / рус. терж. [тердж.] эден Дурсун Хамраева // Веснік БІТ. 2015. 15 лют. № 9.)*

У 1889 г. у перакладзе на туркменскую выйшаў зборнік М. Танка

"Прачытай і перадай другому: вершы і паэма" (Ашхабад, пер. з рус. С. Ураева). У ім - 77 старонак, што не адпавядае колькасці старонак у "Прочитай и передай другому: стихи и поэмы" (М., 1981, 528 с.), таму мы не можам сказаць, ці з'явіліся ў ашхабадскім зборніку "індзейскія" рэчы -"Сон над Нёманам" і "Чылійская бярозка".

**Літ.:**

*12512 Лифанова Т. М., Соломина Е. Н. География материков и океанов. 8 класс: учебник для обучающихся с интеллектуальными нарушениями. Изд. 14-е. М., 2019. (Ліфанава - наша зямлячка, мінчанка, якая стала вядомым педагогам-псіхолагам і аўтарам у Маскве; мы на ўсякі выпадак пераслалі яе адрас у Каруж у сувязі з канферэнцыяй там).*

*10485 [Падабед А. Брудны след ФБР: [пер. з рус.]. Ашхабад, 1989]. (На туркменскай мове; аўтар - з Беларусі; пісаў пра "справу Пелцiера".)*

*1794 Подобед А. Грязный след ФБР. М., 1986.*

**ЛЕВАНОВІЧ Леанід -** (1938-2021) - яго "Бостанскі дзённік" - працяг уражанняў пра наведванне Амерыкі - 21 дзень восенню 2007 г, на гэты раз з жонкай Рагнедай, у той час як першая яго паездка да сям'і дачкі ў ЗША - 33 дні ў канцы 2000 г. - адлюстравана ў кнізе "Усмешлівая Амерыка". Муж дачкі Левановіча - праграміст, запрошаны працаваць за акіянам.

У аўтарскім зборніку з "даволі смелым загалоўкам" з выдавецтва "Liberty" дзённік праходзіць як аповесць, але там жа і ў іншых выданнях надрукавана апавяданне "Казіно". Левановіч наўрад ці змог бы напісаць тэксты на тэму індзейскага казіно не наведаўшы яго. Тым больш што яно - у гасцінічна-забаўляльным комплексе Mohegan Sun у Анкасвіле (Uncasville - ад імя правадыра, вядомага з Купера, - "a village in the town of Montville […] in southeastern Montville, at the mouth of the Oxoboxo River"), "вотчыне" племені Mohegan, - даволі даступнае тым, хто прыехаў у ЗША з боку Атлантычнага акіяна.

Поўны запіс у дзённіку за 10.11. 2007 г., суботу (хаця даступны pdf "Народнай волі" за 22-24.03.2011, дзе адпаведны тэкст, як частка публікацыі з працягам "Дух Амерыкі", - на с. 5 і 6, мы ўзялі яго з файла doc усёй кнігі ў інтэрнэце, які патрабаваў шматлікіх выпраўленняў; паралельна з апісаннем Левановіча мы можам прадэманстраваць, як расказвае пра відэаназіранне і ў цэлым развіццё сітуацыі супрацоўнік Security ў казіно аджыбвэ рэзервацыі Лак-Дзю-Фламбо (Вісконсін), што перайшоў у іншы "department", - якія змены адбыліся за час перапынку ў нашай перапісцы):



BOBIDOSH POINT
NEWSLETTER
ALVIN & DONNA BOBIDOSH
2355 BOBIDOSH POINT LANE
LAC du FLAMBEAU, WI 54538

FALL 1998 EDITION



Mr. Ales Simakou
Belarusian-American Indian Society
P.O. Box 114
Gomel 246049 Belarus

Dear Ales:
I received your letter today and was pleasantly surprised! I was thinking about you and was preparing to sit down and write a letter to you!



For the last couple of years, I worked as a Security Officer for our Casino. I decided to transfer out to another Department back in December. I sure am glad that I did. . . and a lot of my fellow security officers did the same, too, in succeeding months! There was a lot of tension - turmoil going on in that Department!

***Letter from Alvin Bobidosh 1998 Fall (s.d.) (US postage paid at Woodruff, WI 1998-09-22, received 1998-10-07) p. 1 of 6. Former Security Officer of the tribal casino... because of a turmoil?***

*"Сонца, вецер, дзень цудоўны!*

*Працяг тэмы. Учора Вольга з Нетай вярнуліся з абутковага магазіна а палове 12. Аказваецца, некаторыя крамы пачалі працаваць да поўначы. У адной з такіх і набылі боты.*

*- Каторыя зачыняюцца раней, тыя ў пралёце. А ў позніх было шмат пакупнікоў. Таму і наш банк працуе без выхадных і адчыняецца а палове сёмай. Усё для кліента. - разважала Вольга.*

*Так, сэрвіс у Штатах выдатны.*

*А зараз зусім пра іншае. Мы пабывалі ў казіно! Я нават выйграў сорак цэнтаў. А было так.*

*Мы з жонкай зусім не хацелі туды ехаць. Ды гэтак далёка - амаль дзвесце кіламетраў. Чаго?*

*- Там вельмі цікава. Можна цалюткі дзень хадзіць і дзівіцца. І ўсё такое прыгожае. А гуляць у карты ці садзіцца за аўтаматы зусім не абавязкова. Паехалі, - пераконвалі Вольга і Андрэй.*

*Урэшце, мы згадзіліся. Ехалі доўга - гэта штат Канектыкут. Казіно знаходзіцца ў рэзервацыі індзейцаў: абарыгены не плацяць падаткі, таму ўладальнікам казіно выгадна займацца бізнесам на іхняй тэрыторыі. Вакол гульнявога цэнтра вырас цэлы горад. Шматпавярховы гатэль у форме разгорнутай кнігі - як здзек з непісьменных індзейцаў. Велізарны падземны паркінг.*



This photo was "scanned" from a newspaper. It depicts a Surveillance Department from another Casino about 150 miles from where I live. This photo compromises 'Confidentiality' of that Casinos' operation !

The photo, however, depicts the new Department that I have transferred to. From here we oversee the total operation of the casino. When we see something wrong we report it and from there the appropriate department handles the situation. It is truly unbelievable of the antics we see people carrying on just 15 feet below our camera's! When I was in Security. An incident report, could be a whole page long; but, in surveillance, I've typed critical incident reports that are a mere 5-6 sentences long!

The white screens to the left of each operator, gives us a report, on every gaming machine that 's out on the gaming floor. When a machine attendant opens a door; we'll see it on the monitor. If a customer wins a jackpot, it'll flash on the monitor; then we turn a camera towards that machine and visually observe whether that machine is registering a jackpot.

There are at least 30+ television monitors in the photo and each one has a video tape recorder (or VCR) to record the monitors signal. Not shown in the photo is a rover monitor. With the rover monitor, we can take a signal from any other camera or monitor and bring it up on the rover monitor. Most of the time, however, work is quite routine with no incidents happening. Sometimes an incident happens and the floor supervisor will call for a tape review. Once already we spent an entire 8 hour shift doing several tape reviews!

*(News)letter from Alvin Bobidosh 1998 Fall p. 2 of 6. Casino surveillance*

I am enclosing a couple of letterheads for Belarus-American Indian Society. Two are marked "B.A.I.S" and two are marked as "newsletter". The letterheads were generated off of computer using WordPerfect and WordPerfect clipart. WordPerfect is a very powerful word processor program.

In fact over the last several months I have made tremendous strides working with computers. I've added a small program that's called easy photo. It's a small scanner that I can take any small flat object and run it through a scanner and it will save it to the computer. Then I can take that photo and WordPerfect will allow me to import it into Wordperfects field. I can make magazine quality news letters without having to sacrifice quality. I'm enclosing a couple samples of my old Newsletter called "Scripts" One is a copy of the Master which was used to generate the newsletter and a second copy which was done with WordPerfect. The original was done using an Apple computer and technology available at the time; the recreation is done with an IBM clone computer and WordPerfect and also Easy photo!



Here's a photo of myself at work when I was a folk music D.J. at WXPR-FM a 100,000 watt FM radio station nearby.

*he last letter received in Gomel from Alvin Bobidosh, dated 1998 Fall p. 3 of 6. Alvin's WordPerfect and EasyPhoto samples and Alvin as a folk music DJ at FM radio station*

PAGE 4-

What a difference that 11 years make; especially with the evolution of the personal home computers! The original Scripts newsletter was composed on an Apple II-C computer which was state of the art back in those days and IBM was just getting around to designing their new computer system.

With the advent of the IBM style computer came the advent of very powerful word processing programs. When the smoke cleared from the battle of the word processing programs . . . WordPerfect became the system that the others still try to emulate!

In my professional line of work; I use WordPerfect; and a database - spreadsheet program thats called Quattro Pro. Another program that I am required to be proficient in is a program that's called: 'WIN TV" it's a program that can grab a still photo off a television set. Win TV is great but it is woefully obsolete and very touchy! My associates report that another program called: "Snappy" is much better and easier to use !.

At home I use a program that's called Easy-photo scanner which I can take any flat material and run it through the scanner. Some day, though, I may get a flat bed scanner which will take newspaper size objects and save them to the computer.

Early in the evolution of computers . . . fax machine capability was unheard of. Telephonic fax machines had cost thousands of dollars and very few people or small businesses had them. But after the advent of the IBM computer; it wasn't very long before someone had designed a system for fax mail through the computer. When I ordered my Gateway computer four years ago I specified that it be equipped with fax capability, But now with the advent of hyper speed IBM computers; the fax machines increased in speed from 14.5 Mbs to one of 56,000 Mbs!

*Letter from Alvin Bobidosh 1998 Fall p. 4 of 6. Apple II-C, programs and more details regarding computers*

*Бясплатны.*

*Заплаціш у казіно, калі выйграеш, дык нешта купіш, тут безліч шыкоўных крамаў, вып'еш на радасцях у рэстарацыі. Як бы там ні было, нават калі гуляць не будзеш на грошы, усё роўна давядзецца раскашэліцца: паабедаеш, з'ясі марозіва "Бен энд Джэквіс" [Ben & Jerry?] - адна порцыя 2.5 д.*

*Так што паркінг бясплатны, дзверы адчынены круглыя суткі. Калі ласка, сардэчна запрашаем!*

*Уваходзім у будынак. Ліфт-элеватар, шыкоўны, чалавек на дзесяць, падымае на шосты паверх. Выходзім… і апынаемся нібы ў казачным царстве. Яркае святло незвычайных свяцільнікаў. Пад нагамі мяккія дываны з чырвона-чорнымі малюнкамі. Высока ўгары драўляныя канструкцыі, падобныя на кроквы светла-карычневага колеру. На сценах нацягнуты скуры, мабыць, аленевыя, месцамі прымацаваныя даўжэзныя палоскі бяросты. У вушы б'е рытмічная гучная музыка, а вочы бачаць мноства людзей, якія снуюць туды-сюды. Гульнявых аўтаматаў, сталоў з картамі яшчэ не відно. Затое з вышыні метраў паўсотню па скалах коціцца шумлівы вадаспад. Унізе лавачкі. На адной з іх сядзяць два лысаватыя кітайцы, ціхамірна гутараць - пэўна, пра жыццё-быццё.*

*Дарэчы, кітайцаў вельмі шмат: і мужчыны, і жанчыны, найбольш сталага веку. Шмат людзей цёмнаскурых - высокія, тоўстыя, як шафы, негрытосы [так], жанчыны з тоўстымі азадкамі. Шмат мулатаў, сярод*

PAGE 5

My new computer which is a speed demon. . . it's so darn fast that it falls asleep if I touch a button or application too lightly ! I don't see why I need a computer that can zip along at better than 500 Mbs and today a modem of 14.5 Mbs will take 5 minutes to download small files and say, like a upgrade from an Internet provider could take as long as 30 minutes! My new computer with its 38.5 Mbs will complete the task quickly. There is a manufacturers war going on right now and the smoke should be settling out soon as to what standards the new high speed modems will be set at ! Any computer becomes obsolete within 6 months. So if you were to buy a top of the line model tomorrow. . .it will be obsolete before Spring time!

I particularly like sending out letters via E-mail or by fax. It costs about US$0.45 to send a fax message out and being able to get a return message the same day! Our Postal System takes three days to deliver a letter from one end of the Country to the other!

With the advent of the Internet system going globally and becoming available to virtually everyone; There are many Internet providers that serve and also independent local Internet providers are springing up all over. Major network providers are: America-Online; CompuServe Prodigy; GTEnet. CompuServe was the original Internet provider service; then came America-online (A.O.L) it's growth had truly swamped AOL to the point that people were quitting or discontinuing use because of slow response time; servers being busy and a extreme problem of unwanted advertisers jamming up your mailbox! I quit AOL once because of the unwanted junk mail! Local Internet providers are springing up all over because they can provide local toll-free Internet service. The Major Internet services such as AOL and CompuServe require that you call one of their regional telephone numbers in order to gain access. For myself on AOL the nearest telephone system that AOL has available for me to use is over 100 miles away and thus I'd get large telephone bills especially if I'm working AOL for 8 hours at a time! All my friends here in Flambeau are either on a Major Server (AOL) or a local network Server (New North Net)

***Letter from Alvin Bobidosh 1998 Fall p. 5 of 6. Internet on the Lac du Flambeau reservation***

PAGE 6-




Here's am example of an object that I can scan into my computer! This is one of my favorite souvenirs that I saved when we visited the Soviet Union in Mapt 1989!

I am hoping that some time I can plan that trip and come on over to Minsk!

20. Popov's Mayas from your newsletter rings a bell with me! In a neighboring town I know of a friend named Boris Popov. I should talk with him and learn from where and when his family immigrated.

I like the news letter. It is well written ! I have the capability now of making copies and can send them out by mail !

Speaking of E-mail ! The copy of Minsk News has an interesting advertisement and I see that Minsk Mail has a website which I can contact. There is an advertisement for Minsk Radio ! Radio and Television is my profession! When I do come to Minsk . . . Radio Minsk would be one stop I'd love to make . . . Perhaps arrange for some "air time"

Sincerely,
Alvin J. Bobidosh

***Letter from Alvin Bobidosh 1998 Fall p. 6 of 6. "Пепсі-кола" (Pepsi Cola), souvenir from his 1989 Soviet trip. Цікава, што і арызонскі індзеец У. Язі на нашых вачах у кватэры на праспекце Скарыны адарваў наклейку на бутэльцы з падобным напіткам (на рускай мове) у якасці сувеніра. Alvin's ideas for a visit to Belarus***

*абслугі. Ідзём далей. Свецяцца ўказальнікі: рэст-рум (прыбіральня), рэстараны. Розныя крамы і крамкі. Сталоў і аўтаматаў яшчэ не відаць. Вось высозная елка, на ёй нібы стружкі, плафоны. Вакол яе па каменьчыках бруіцца вада, блішчаць манеткі, іх багата.*

*Павярнулі ў іншае крыло. Тут дзіцячыя пакоі, дзятва гуляе сама па сабе, вядома, ёсць і нагляд абслугі. А бацькі тым часам ловяць за хвост фартуну.*

*Народу паболела, пагусцеў водар цыгарэт - тут дазваляецца паліць. Вось на скалістым уцёсе ў цэнтры круга - плошчы-скрыжавання - стаіць мацёры воўк, хітае лабастай галавой, падымае і апускае тоўсты хвост. Каля сцяны - стол, за ім сядзіць чалавек. Над сталом буйнымі літарамі па-англійску напісана: калі вы згубіліся, мы дапаможам. Тут ёсць карты памяшкання. Андрэй і Вольга часам зазіралі туды. Яны ўжо аднойчы былі ў казіно, але заблукаць тут лёгка, бо казіно Махіган-Сан займае вялізную тэрыторыю. Мы вырашылі ўсё агледзець, потым перакусіць і сесці за аўтаматы.*

*Завіталі ў індзейскую краму. Прыглянулася футравая камізэлька-безрукаўка. Але яна кусалася - кошт за дзвесце баксаў. Прывабныя чырвона-карычневыя падушачкі - 60 д. Расфарбаваныя драўляныя лыжкі - 12 д. Таксама зашмат. У вялізнай вазе тырчалі пучкі рознакаляровых птушыных пёраў: белыя, чырвоныя, сінія, жоўтыя, чорныя. Пёры звязаныя адмысловым шнурком, вузел замацаваны бліскучаю бляшкаю. Кошт - шэсць долараў.*

*- Бацька, можа, купім гэты сувенір? - прапанавала Вольга.*

*- Не, Волька, дзякуй. Навошта? За нейкія пафарбаваныя пёры плаціць шэсць баксаў?*

*У мяне ў кішэні муляла адна купюра - дзесяцідоларавая, якую вырашыў ахвяраваць на гульнявыя аўтаматы. Дарэчы, тут няма амерыканскіх цэтлікаў, якія звычайна канчаюцца на "9": 5,99; 7,59, 9,99. Індзейцы і гэтым хочуць адрозніваццa.*

*І ўсё ж адзін сувенір мяне зацікавіў: індзейскі кошык для лоўлі сноў. Прыгожае залачонае кола, у цэнтры яго крыж, на ланцужках з кола звісаюць шэсць рознакаляровых птушыных пёраў.*

*- Гэта дрым-кэтчар. Лавушка для сноў. Ёсць індзейскае паданне: добрыя сны затрымліваюцца, а кепскія, кашмарныя сцякаюць уніз. У зямлю, - патлумачыў Андрэй. - Дрым - па-ангельску "спаць".*

*- А па-нашаму - драмаць. Невядома, хто ў каго пазычыў слоўца, - сказаў я.*

*- Давай купім дрым-кэтчар. Будзе памяць пра казіно,- прапанавала Вольга.*






***Envelope from Barrie Kavasch, postmark Bridgewater, Connecticut 1991-12-21, received 1992-01-10***

*Я зірнуў на цэтлік: каштаваў сувенір 12 д. Пакуль разважаў, жонка апярэдзіла:*

*- Калі ўжо набываць, дык нейкую патрэбную рэч. А гэта што? Суседзі засмяюць. Прывёз з-за акіяна бразготку.*

*- Дванаццаць баксаў замнога,- пагадзіўся я. А сам падумаў: над пісьмовым сталом дрым-кэтчар глядзеўся б прывабна. І кошт - 12, мабыць, невыпадковы. Акурат тузін. Лічба таемная…*

*Так, без сувеніру выйшлі мы з індзейскай крамы. Бясшумны эскалатар падымае нас на паверх вышэй. Павярнулі направа: тут стаяць высозныя елкі. Мусіць, яны растуць з зямлі. Ствалы абкладзеныя нечым белым, як вата - імітацыя снегу. Над галавой зорнае неба, мігцяць штучныя сузор'і. На сталах-стэлажах фота-партрэты дзеячаў індзейскай культуры. Наведнікаў мала. Аматарам казіно начхаць на культуру мясцовых абарыгенаў.*

*Нарэшце мы дапялі да сэрца казіно. Тут было людна, тлумна, грымела музыка, плаваў лёгкі туманок цыгарэтнага дыму. Справа шарэнгаю стаялі сталы, на зялёным сукне маладыя кітайцы - хлопцы і дзяўчаты, спрытна раскладвалі карты, далей - перамешвалі касцяшкі, падобныя на даміно. А з другога боку чакалі сваіх кліентаў аўтаматы для гульні ў покер.*

*Мы таксама не былі гатовыя засесці за аўтаматы. Апетыт нагулялі, азарт жа яшчэ не прачнуўся. Пачалі шукаць, дзе б паабедаць. Кавярні, бары былі на кожным кроку. Але ў іх дужа кусаліся цэны. Нарэшце знайшлі нешта падобнае на сталоўку.*

*Я заняў вольны столік, а мае сямейнікі пайшлі здабываць ежу. Ад няма чаго рабіць азіраўся вакол, па звычцы ўсё прыкмячаў. Злева палуднавала кітайская пара: абое старыя, хударлявыя яны засяроджана працавалі чорнымі нажамі і відэльцамі. За столікам насупраць - дзве негрыцянкі, таўсматыя, чорныя, як засланкі. На цёмных пальцах - адно падушачкі пад пазногцямі светлыя, - паблісквалі залатыя пярсцёнкі, у вушах залатыя вісюлькі. Значыць, не бедныя. Чамусьці падумалася: мо яны з Паўднёва-Афрыканскай рэспублікі?*

*А чаму нажы і відэльцы чорныя? Столікі жоўта-карычневыя? Мабыць, індзейцы падганяюць усё пад сябе: вала-сы іхнія чорныя, як вароніна крыло, а твары карычневыя.*

*Нарэшце вярнуліся мае сямейнікі. Заставілі стол прысмакамі. У папяровых кубачках з накрыўкамі быў суп, у яго трэба ўсыпаць з пакецікa сухарыкі. Суп вельмі гарачы, даволі смачны, каларый-ны. Піца таксама спадабалася. І зяляніна нейкая была дарэчы.*

*Падсілкаваўшыся, мы рашуча накіраваліся да аўтаматаў. Іх тут тысячы. І тысячы людзей: белых, жоўтых, цёмнаскурых - сядзяць у крэслах, націскаюць на кнопкі. Усіх яднае адзінае жаданне - злавіць за хвост удачу.*

*З маіх сямейнікаў гуляць адважыўся толькі я - муляла ў кішэні 10-доларавая купюра. Андрэй паказаў, у якую шчыліну трэба ўсунуць банкноту. Аўтамат прагна заглынуў грошы, на табло справа засвяцілася адзінка з трыма нулямі - тысяча цэнтаў. Спярша паставіў па аднаму цэнту. Табло засвяцілася зялёнымі, чырвонымі, сінімі прамавугольнікамі. На іх нешта было намалявана. Разабраць я не мог, дый не да таго… Я націскаў кнопкі, аўтамат радасна паблісквaў агеньчыкамі. Справа замільгалі лічбы: 999,998, 997… Паставіў па пяць цэнтаў. Разы два тры націснуў, аўтамат неяк асабліва ярка засвяціўся: у квадраціку з'явілася лічба 10. Выйграў дзесяць цэнтаў, але прайграў утрая болей. Андрэй параіў перасесці за суседні аўтамат, ад якога толькі што адышлася сумнатварая кабета. Націснуў на кнопку вяртання - высунулася белая паперчына, памерам з долар, на якой лічба 975. Усунуў паперчыну ў новы аўтамат, паставіў па пяць цэнтаў.*

*Разы тры прайграў. Раптам аўтамат засвяціўся, нібы ўнутры ўспыхнула маланка, выскачыла лічба 50. Выйграў пяцьдзесят цэнтаў! Мае сямейнікі дзівіліся і радаваліся. Потым былі выйгрышы па пяць, па дзесяць цэнтаў. Усяго ўжо набегла 14.70. Але тут пасыпаліся пройгрышы. О, як непрыемна прайграваць! Хацелася верыць, што зноў пашанцуе.*

*Андрэй параіў памяняць аўтамат. Прамінулі некалькі радоў металічных монстраў. Сеў за новы аўтамат. Ставіў па пяць цэнтаў. Разы два выйграў па дзесяць цэнтаў, а потым пасыпаліся адны пройгрышы. Калі на табло-рахунку засвяцілася 10.40, я рашуча падняўся з крэсла:*

*- Годзе! Хай будзе хоць маленькі прыбытак. Хоць на сорак цэнтаў абдурыў капіталістаў.*

*Аўтамат выдаў белую паперчыну, у канцы рада іншы агрэгат абналічыў яе - высунулася купюра 10 д., са звонам пасыпаліся манеты. Усё рабілася без удзелу чалавека. Ён, нібы злы дух, стаяў за гэтым аўтаматам. А мо сядзеў унутры. Падумалася, што калі гуляюць у карты, насупраць сядзіць партнёр, дакладней - праціўнік, які хоча выйграць у цябе, мусіць, зусім іншае*





*адчуванне. Адзін з персанажаў талстоўскай "Ганны Карэнінай", сябар графа Вронскага. заўзяты карцёжнік Яшвін казаў пра партнёра: "Он хочет меня оставить без рубашки. А я его". У аўтамата такога жадання не было, але мне хацелася яго абдурыць, і таму радаваўся, што не "продулся". Здаецца, так некалі пісаў сам Леў Мікалаевіч у адным з лістоў са Швейцарыі. Прыеду ў Мінск - удакладню. Бо маю 60-ы том ягонага Поўнага Збору Твораў. Там ёсць і яшчэ адно прызнанне, але пра яго можна пісаць канкрэтна. Іначай ніхто не паверыць. А Леў Талстой быў жывым чалавекам і нішто чалавечае было яму не чужое.*

*З мастка я кінуў у ваду манету - мо яшчэ вярнуся паспытаць удачу.*

*- На радасцях частую марозівам, - расшчадрыўся я. - Гуляць дык гуляць!*

*Але на чатыры порцыі маіх грошай не хапіла - Андрэй дадаў адзін бакс. Мы селі на лаўках каля вадаспада. І пад шум вады са смакам елі марозіва "Бен энд Джэквіс" [так].*

*Калі вярталіся назад, я зноў любаваўся хайвэем. На першай і другой палосах мы абганялі вялізныя, груваcткія фуры, кургузыя мікрааўтобусы. Затое па чацвёртай паласе абганялі нас магутныя джыпы, шырокія, прысадзістыя "кадылакі". Гулу матораў не было чутно, здавалася, што гэтыя монстры на колах плывуць па водных дарожках велізарнага басейна-акіяна. Нізкае зыркае сонца высвеціла жоўтыя купчастыя дрэвы, затым хайвэй абступілі высокія скалістыя ўцёсы, магутныя валуны. Падалося, што нейкі асілак абклаў асфальтоўку каменнем, каб шматтысячны статак рознамасных, рознакаляровых аўто не разбегся ва ўсе бакі.*

*А яшчэ падумалася: колькі высілкаў спатрэбілася, каб прабіць між скалаў шырачэзны хайвэй!*

*Няўжо дзеля таго, каб рызыканты, махляры з усяго свету ехалі ў казіно? Вядома ж, не. Вадзіцелі аўтобусаў, фураў, рэфрыжэратараў у казіно не заварочвалі. У іх былі іншыя мэты: даставіць пасажыраў, грузы ў пэўнае месца і ў пэўны час. На поўнач хайвэй прастуе ажно да бярозава-зялёнай Канады, на поўдзень - да гарачай Мексікі. Хайвэй, як і казіно, працуе круглыя суткі.*

*Уразіла адна дэталь. Заехалі на запраўку. Пакуль Андрэй заліваў паліва, Вольга завяла нас у прыдарожную краму-кавярню. На шкляных дзвярах буйнымі літрамі было напісана.*

*- Прадаўцы крамы не маюць ключоў ад сейфа. Больш за 50 долараў у касе не бывае, - такі пераклад зрабіла дачка. - Гэта для рабаўнікоў, гангстэраў. Маўляў, нападаць на гэтую краму няма сэнсу. Спажыва малая.*

*Можа, і гэты штрых - праява амерыканскага духу?*

*Афарызм сёння такі: Strike while [ў НВ - white] the iron is hot - рускі пераклад: куй железо, пока горячо".*

*"Гуляць дык гуляць!" - такое мы ўжо чулі і ад іншых. Вось толькі "нечакана" было чытаць пра азарт і іншыя дэталі псеўдаіндзейскага "забаўляльнага монстра" ў аўтара "Валанцёра свабоды" - прататыпам яго героя быў беларус, які жыў у Аргенціне, а потым змагаўся ў Іспаніі. Ці не лепш было б ствараць індзейскія архіўна-бібліятэчныя, інфармацыйныя цэнтры памерам з "кнігу" ў Анкасвілі?!*

*Літ.:*

*6915 Леванoвіч Л. Валанцёр свабоды // Леванoвіч Л. Валанцёр свабоды: аповесць і апавяданні. Мн., 1983.*

*6956 Леванович Л. Волонтер свободы: повесть-монолог / пер. Е. Метченко // Леванович Л. Якорь надежды: повести, рассказы: пер. с бел. М., 1991. С. 5-186.*

*2447 Левановіч Л. Познія грыбы // Левановіч Л. Якар надзеі: аповесці і апавяданні. Мн., 1979. С. 223-228.*

*6542 Левановіч Л. Познія грыбы: апавяданне // Полымя. 1977. № 2.*

*6731 Леванович Л. Поздние грибы / пер. С. Куваева // Неман. 1978. № 10.*

*6732 Леванович Л. Поздние грибы / пер. С. Куваева // Леванович Л. Якор надежды: повести, рассказы: пер. с бел.; [худ. О. Давыдова] М., 1991. С. 298-302.*

*6036 Левановіч Л. Тры оды: з цыкла "Усмешлівая Амерыка" / фота А. Сіліча // Народная воля. 2001. 9 чэрв. С. 3. (Ода хайвэю; Ода супермаркету; Ода японскім сушы)*

*6400 Левановіч Л. Усмешлівая Амерыка // Полымя. 2001. Лістап. № 11. С. 140-160.*

*11280 Левановіч Л. Усмешлівая Амерыка. Мн., 2005.*

*8151 Левановіч Л. Дзверы: аповесць-быль з цыкла "Усмешлівая Амерыка" // Беларусь. 2002. № 7. С. 40-42.*

*9262 Леванович Л. Казино: рассказ / пер. с бел. автора // Наш современник. 2009. № 12. С. 107-112.*

*9261 Левановіч Л. Казіно: апавяданне // Літаратура і мастацтва. 2009. 13 лют. С. 9.*

*12517 Леванович Л. Казино: рассказ // Леванович Л. Оргазм в варшавском отеле: рассказы, повесть, эссе: [пер. с бел.]. New York, 2013. (Liberty Publishing House.)*

*8670 Левановіч Л. Дух Амерыкі // Народная воля. 2011. 15-17 сак. С. 5-6. (Працяг будзе.)*

*12516 Леванович Л. Дух Америки. Бостонский дневник: повесть // Леванович Л. Оргазм в варшавском отеле: рассказы, повесть, эссе: [пер. с бел.]. New York, 2013. (Liberty Publishing House.)*

**СІЛЬНОВА Людміла** - бібліятэкар і паэт.

Мы бачыліся з ёй у Нацыянальнай бібліятэцы - у старым і новым будынках, дзе яна працавала, а таксама ў Доме дружбы ў другі дзень выступлення наваха У. Язі "індзейскім летам" 1996 г.

8.7.1997
Мінск

Паважаны Алесь!

Трымайце адказ на ліст. Прабачце, што са спазненнем: шмат працы.

"Беларуска-індзейскае таварыства" на мове эсперанта будзе так: Bjelorusa-Indiana Societo. У сучасным эсперанта у дачыны слове "belorusa" з'явілася літара "j" (гл. "Jarlibro 1997", інш. афіцыйныя еўрапейскія выданні). І — у мове эсперанта адначасова існавалі 2 розных слова для "індусаў" і "індзейцаў", як і ў рускай, беларускай мовах (акрамя Заменгоф ведаў, бо жыў у Беластоку): адпаведна "hindoj" і "indianoj".

Звесткі аб біяграфіі Кірушонка, атрыманыя ад А.Коваля, не вельмі дакладныя. У Мінску ёсць людзі, якія больш ведаюць аб ім. Канкрэтызуйце, калі ласка, якія звесткі і для чаго (збор інфармацыі, публікацыя, пошукі дакументаў?) вам, Алесь, патрэбныя.

Дасылаю вам бланк пратаколу (?) са сваімі адзнакамі. Магчыма, на днях дашлю грашовы перавод у падтрымку дзейнасці БІТа.

Той нумар часопіса "Беларусь" з артыкулам пра індзіяністаў я знайшла і артыкул прачытала. Рада за вас!

За гэты год я прачытала 9 кніг Карласа Кастанеды і выразна адчуваю моцны уплыў на маю літаратурную і грамадскую дзейнасць. Найбольш

*One of the two letters we received from writer and librarian Ludmila (Liudka) Silnova 1998-06-24 p. 1 of 2*

я выдзяляю ў ім тэмы творчых адносінаў да жыцця, што значыць быць "воінам" і экалогію. Ну, можа тое гэта не вельмі цікава.

Мне бывае дасылаюць ад розных эсперанцкіх арганізацый запрашэнні на цікавыя мерапрыемствы. (Але пакуль няма грошай ездзіць.) Магчыма, табе будзе цікава паглядзець некаторыя з такіх запрашэнняў з маёй калекцыі. І параўнаць запісы мовы, праблемы і іншае.

Чакаю запрашэнняў на якія-небудзь "індзейскія" мерапрыемствы, падобныя да міжнароднага ў Доме дружбы.

Людміла Сільнова

**_Ліст ад Людмілы Сільновай 1998-06-24 с. 2 з 2-х. Liudka Silnova also corresponded with to another Indianist in Gomel, A. Snitko_**

З нашага ліста да яе ў красавіку 1997 г.: "*Дзякуй за пакінуты ў бібліятэцы аркуш* [з публікацыяй пра індзейскую імпрэзу ў Доме дружбы] *з "Ва-Банкъ"* […] *Мне здаецца,, што мы маглі б супрацоўнічаць у некалькіх галінах: бібліятэчная справа / бібліяграфія, эсперанта, літаратуразнаўства. Калі Вы паведаміце нам сваю згоду "адкрыць некалькі файлаў" па гэтых і іншых па Вашаму выбару накірунках, я паспрабаваў бы рэгулярна пасылаць або перадаваць на захоўванне адпаведныя матэрыялы*".

**Літ.:**

*3064 Сільнова Л. Уздоўж індзейскай ракі; Індзеец; Хмурынка - успамін // Наша ніва. 1996. 29 крас. С. 17.*

*3670 Сільнова Л. "Зачараваная краіна": Дамок у лесе; Зачараваная краіна; Вогненны воран; "Поле"; Вуснае кіно; Калядная казка; Спроба канца // Літаратура і мастацтва. 1998. 5 чэрв. С. 8-9.*

*9826 Сільнова Л. Запісы на кулінарнай фальзе // Сільнова Л. Крышталёвы сад і кніга крытыкі. Мн., 2007. С. 137-143.*

*11950 Сільнова Л. Крышталёвы сад: маніфэст транслінгвізму і псыхадэлічнага літаратуразнаўства / // Фрагмэнты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры: сярэдне-еўрапейскі культурны агляд. 2000. № 3/4 (восень). С. 239-275. (Людка Сільнова - форма імя ў літаратурнай творчасці.)*

*9827 Сільнова Л. Крышталёвы сад і кніга крытыкі. Мн., 2007.*

*10136 Сільнова Л. Нетутэйшая паэзія "тутэйшай" / інтэрв'ю І. Шматковай // Літаратура і мастацтва. 2017. 21 крас. С. 7.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou,***
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenas, indios de America у Belarus; Grinkevich On the School Project (Church school in San Francisco, 1888-1892, Церковная школа в Сан-Франциско).***



# "Усё пачынаецца з ніткі"





28 верасня ў Лідскім замку была наладжана інтэрактыўная пляцоўка "Усё пачынаецца з ніткі". Госці пазнаёміліся са спосабамі вытворчасці ніткі ў Сярэднявеччы на прыкладзе крапівы і авечай воўны, спрабавалі сплесці шнур на вілцы ці ў тэхніцы фінгерлуп, і нават заняцца іголкавым пляценнем.

***ТК "Культура Лідчыны".***

# "Восень прыйшла - усім дары прынесла"

Філіял "Інтэграваная бібліятэка аграгарадка Дворышча" ладзіў этнаграфічную гадзіну "Восень прыйшла - ўсім дары прынесла".

Бібліятэкар пазнаёміла вучняў з восеньскімі традыцыйнымі беларускімі святамі і прапанавала паслухаць прыгожыя вершы беларускіх пісьменнікаў пра восень. І гэта па ўсім відаць, натхніла дзяцей на тое, каб бліжэй пазнаёміцца з творамі, прысвечанымі прыродзе, звярнуць увагу на маляўнічасць родных краявідаў.







Дзеці з задавальненнем зрабілі папяровага вожыка, пагулялі ў гульні "У мядзведзя ў бары", "Пеўнік ды Ліска".

***ТК "Культура Лідчыны".***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 2.10.2023 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3,75 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*